ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 22 (2580)

4 чэрвеня 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

«ЮБІЛЕЙНЫЯ ВЕЧАРЫ» Міхала КАЗІНЦА



## НЕ АХВЯРА, А СЭНС

Народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі краіны, рэктар Беларускай акадэміі музыкі, прафесар Міхал Казінец адзначыў сваё шасцідзесяціГоддзе. Гэтай падзеі маэстра прысвяціў аж тры "Юбілейныя вечары", таму што ён, перш за ўсё дырыжор. Міхал Казінец кіруе трыма аркестрамі: "Маладая Беларусь" Акадэміі музыкі, які сам вывеў у вялікае канцэртнае жыццё і нават у еўрапейскі мастацкі свет; Акадэмічным сімфанічным, галоўным аркестрам краіны, за пультам якога адбыўся дэбют Казінца як сімфанічнага дырыжора; Акадэмічным народным аркестрам імя І. Жыновіча, у якім пачынаў свой шлях у вялікае мастацтва, у якім адчувае сябе, нібы ў роднай сям'і, з якім быў і ў свой юбілейны дзень.

У адным з інтэрв'ю карэспандэнт спытаў у музыканта, як ён пераносіць сваю занятасць.

— Сёння ў мяне Акадэмія музыкі і два аркестры. Вось каб усяго гэтага не было, дык было б цяжка, — адказаў Міхал Антонавіч.

Ён нарадзіўся ў вёсцы Цінцавічы непадалёку ад Вілейкі. "Ігрэць пачаў, як толькі мне ў рукі трапіў гармонік. І было гэта ў васьмігадовым узросце. Спачатку цешыў музыкай сваіх равеснікаў, а ўжо ў 11 гадоў мяне пачалі запрашаць на вялікія вяселлі, дзе даводзілася іграць па 5—6 дзён. Гэта быў пасляваенны час. Бацька мой вярнуўся з вайны інвалідам II групы. Мама працавала тэхнічкай", — успамінае Міхал Казінец.

Захапленне музыкай з дзяцінства ён не лічыць выпадковасцю. Музыкантам быў дзед Міхала Антонавіча, які араў зямлю і іграў на скрыпцы. Маці прыгожа спявала беларускія народныя песні.

"А пра аркестр я пачаў думаць сур'ёзна ў гады вучобы ў кансерваторыі, — успамінае М. Казінец. — У нас на народным факультэце вывучалі дырыжыраванне, і ў мяне быў цудоўны выкладчык — Іосіф Самуілавіч Абраміс, дырыжор опернага тэатра..." Таму праз тры гады пасля заканчэння народнага факультэта ў 30-гадовым узросце М. Казінец вярнуўся ў кансерваторыю і паступіў другі раз, цяпер ужо на оперна-сімфанічнае дырыжыраванне яшчэ на пяць гадоў.

Расказваючы аб сваім прафесійным і жыццёвым крэда, Міхал Антонавіч падкрэслівае, што артыст павінен быць і добрым прафесіяналам, і добрым чалавекам, "бо інакш немагчыма "сеяць" вечнае, прыгожае, эмацыянальнае. Як вытрымаць вялікія псіхалагічныя нагрузкі пры незайздросным матэрыяльным становішчы? Забыцца на свае паўсядзённыя справы? Такая наша прафесія, наша традыцыя. І разам з тым памятаць, што гэта не ахвяра, а сэнс".

*ТЭЛЕВІЗАР СЯРЭДНЯГА КЛАСА СУСВЕТНАГА ЎЗРОЎНЮ*

## БЕЛАРУСКІ «ВІЦЯЗЬ»

Вытворчае аб'яднанне (ВА) "Віцязь" стваралася больш за 20 гадоў назад як прадпрыемства па вытворчасці каляровых тэлевізійных прыёмнікаў. Завод таксама выпускаў вырабы спецтэхнікі, якія затым у сувязі з канверсіяй былі зняты з вытворчасці. Сёння віцебскае вытворчае аб'яднанне "Віцязь" выпускае тэлевізійныя прыёмнікі каляровага і чорна-белага адлюстравання, станцыі міжстанцыйнага прыёму, сістэмы спадарожнікавага прыёму, а таксама вырабы медыцынскай тэхнікі і нават мэблю. Прадпрыемства заяўляе, што стварыла тэлевізар, які па ўсіх характарыстыках адпавядае тэлевізару сярэдняга класа сусветнага ўзроўню. Серыйны выпуск пачнецца праз некалькі месяцаў.

Распрацоўкай тэлевізійных прыёмнікаў на "Віцязі" займаецца служба галоўнага канструктара завода, а таксама канструктарскае бюро "Дысплей", якое распрацоўвае і выпускае маніторы спецпрызначэння для расійскай арміі. І хаця абедзве арганізацыі ўваходзяць у ВА "Віцязь", яны працуюць на канкурэнтнай аснове.

Сёння "Віцязь" выпускае тэлевізары каляровага адлюстравання з дыяганалямі экрана 37 сантыметраў, 51 і 54 сантыметры, а таксама чорна-белага — з дыяганаллю 34 сантыметры. Ствараецца ўстановачная партыя чорна-белых тэлевізараў з дыяганаллю экрана 50 сантыметраў, прызначаных для жыхароў вёскі.

Серыйна выпускаемыя мадэлі маюць адзінае монашасі, пабудаванае на базе аднаго блока, які ўваходзіць у склад многіх мадэлей. Такая уніфікацыя пакідае месца для манеўра пры вытворчасці: прадпрыемства можа працаваць незалежна ад таго, якія тыпы кінескопаў паступілі на завод. На базе уніфікаванага шасі створаны тэлевізар, якому пакуль няма аналагаў ні ў Расіі, ні ў Беларусі. Ён мае паўнацэннае меню на экране, прадугледжвае магчымасць абароны любога канала ці рэжыму відэа ад несанкцыянаванага ўключэння (ахова ад дзяцей тых каналаў, прагляд якіх па нейкіх прычынах непажаданы). У прыёмніку ёсць убудаваны дэкодэр тэлетэкста, на базе якога ажыццяўляецца экранная графіка і вывад адпаведнай інфармацыі на экран; дадатковыя таймеры. Па сваіх функцыянальных характарыстыках гэта тэлепрыёмнік высокага класа.

Ажыццяўляецца запуск у вытворчасць установачнай партыі аналагава-лічбавага тэлевізара, які "Віцязь" пачне выпускаць першым на тэрыторыі былога СССР. Гэтая мадэль мае ўнутраны мікрапрацэсарны блок, які кіруе ўсімі рэжымамі работы тэлевізара. Ад лічбавай мадэлі яго адрознівае толькі тое, што апрацоўка тэлевізійнага сігнала робіцца ў аналагавай форме.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**З ВЕРНІСАЖУ АЛЯКСЕЯ МАРАЧКІНА**

## «НАС КАВАЛІ Ў ПЛАМЕННІ...»

З пятага па дваццаць першага траўня гэтага года ў галерэі "Мастацтва", што на праспекце Францішка Скарыны ў Мінску, працавала выстава вядомага беларускага майстра пэндзля Аляксея Марачкіна. Ва ўтульнай светлай зале, невялікай па сваіх памерах, размясціліся ўсяго пятнаццаць твораў жывапісу і ў спецыяльным выставачным рыштунку — каля сарака акварэляў. Пераважная большасць з іх напісаная ў апошнія два-тры гады.



Да гэтага вернісажу Аляксей Марачкін прайшоў мастакоўскім шляхам трыццаць гадкоў з гакам. Пачынаўся гэты шлях у 1966-м, калі ён, студэнт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, паказаў свой зімовы эцюд на II Рэспубліканскай маладзёжнай выставе. Прайшоўшы добрую акадэмічную школу ў такіх майстроў каларыстычнага жывапісу, як Іван Ахрэмчык і Натан Воранаў, мастак працуе ў самых розных жанрах выяўленчага мастацтва. Найбольш вядомы шырокаму колу гледачоў ягоны

(Заканчэнне на 7-й стар.).

### ДА ЧЫТАЧОЎ У БЕЛАРУСІ!

**Паважаныя чытачы "Голасу Радзімы"!**

**Пачалася падпіска на перыядычныя выданні на другую палавіну 1998 года. Нагадваем вам пра гэта і спадзяемся, што вы застанецеся з "Голасам Радзімы", прынамсі, да канца года. Будзем удзячныя, калі вы параіце падпісацца на штотыднёвік "Голас Радзімы" іншым.**

**Усе даведкі пра наша выданне — у каталогу, які вы знойдзеце ў кожным аддзяленні сувязі Рэспублікі Беларусь.**

**Наш індэкс 63854.**

**РЭДКАЛЕГІЯ.**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*



22—23 мая Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Старшыня Вышэйшага Савета Саюза Беларусі і Расіі Аляксандр Лукашэнка наведаў Яраслаўскую вобласць Расійскай Федэрацыі. Адным з пунктаў яго праграмы было ўскладанне кветак да помніка Максіму Багдановічу.

НА ЗДЫМКУ: цырымонія ўскладання кветак да помніка беларускаму паэту Максіму Багдановічу.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.

*НА СУСЕДА СПАДЗЯВАЙСЯ...*

### ЗАПАСАЕМСЯ ГАЗАМ

Савет Міністраў Беларусі адобрыў прапанову дзяржаўнага прадпрыемства "Белтрансгаз" аб стварэнні рэзервовых запасаў прыроднага газу. У падземнае сховішча ў Асіповічах да 1 кастрычніка г.г. будуць запампаваны 310 мільёнаў кубічных метраў блакітнага паліва. Рэзерв дазволіць на працягу некалькіх сутак утрымліваць пад кантролем сітуацыю ў рэспубліцы ў выпадку рэзкага скарачэння паставак газу з Расіі.

*БЕЛАРУСЬ І СВЕТ*

### ДВАЙНЫЯ СТАНДАРТЫ

Абмен думкамі па шэрагу пытанняў, якія датычаць развіцця двухбаковых адносін, адбыўся ў час сустрэчы міністра замежных спраў нашай краіны Івана Антановіча з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Францыі ў Беларусі Бернарам Фасье. Кіраўнік беларускага МЗС прыняў французскага дыпламата па яго просьбе.

У ходзе гутаркі была закранута таксама тэма прымянення двайных стандартаў у адносінах да захавання ў Беларусі правоў чалавека, у прыватнасці да дзейнасці "Хартыі-97". Іван Антановіч назваў нетактоўнымі дзеянні з боку Еўрапейскага саюза ў адносінах да ўрада і народа Беларусі, падвергнутых ізаляцыі з боку гэтай арганізацыі, якая ў той жа час раздае грашовыя прэміі дзеячам беларускай апазіцыі. Міністр выказаў упэўненасць, што ў гэтым выпадку грашовыя прэміі не з'яўляюцца гуманітарнай акцыяй, а носяць палітычны характар. Пацвярджэнне таго, паводле яго слоў, — прэміраванне выключна асоб, вядомых сваімі апазіцыйнымі, антыканстытуцыйнымі дзеяннямі.

Міністр замежных спраў звярнуў увагу пасла на тое, што пан Саннікаў, які ганарыста назваў сябе стваральнікам руху "Хартыя-97" і заявіў аб падпісанні Хартыі 180 тысячамі чалавек, адлюстроўвае мізэрна малую частку дзесяцімільённага насельніцтва Беларусі, што ўключае каля сямі мільёнаў выбаршчыкаў.

Іван Антановіч таксама перадаў дыпламату памятную запіску беларускага ўрада адносна ўдзелу нашай краіны ў Сусветным эканамічным форуме ў Зальцбургу, намечаным на чэрвень 1998 года, на які Беларусь не атрымала запрашэння. Такая памятная запіска Міністэрства замежных спраў будзе накіравана ва ўсе пасольствы дзяржаў — членаў Еўрапейскага саюза, акрэдытаваных у Беларусі.

*СУПРАЦОЎНІЦТВА*

### АМЕРЫКАНСКІ ВОПЫТ

Рэктары буйных дзяржаўных універсітэтаў Мінска, Гродна, Полацка і Брэста, а таксама трох недзяржаўных інстытутаў прынялі ўдзел у праграме "Кіраванне універсітэтамі ў ЗША", якая была арганізавана амерыканскім урадам.

Як паведамілі ў прэс-службе Пасольства ЗША ў нашай краіне, 12 кіраўнікоў беларускіх вышэйшых навучальных устаноў на працягу трох тыдняў знаёміліся з работай універсітэтаў і каледжаў Вашынгтона, Нью-Йорка, Мінеапаліса, Портленда і Грынсбара. Пасля вяртання беларускай дэлегацыі ў рэзідэнцыі Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла ЗША ў Беларусі Дэніэла Спекхарда быў арганізаваны прыём у гонар удзельнікаў праграмы, на якім былі падведзены вынікі паездкі. У сваім звароце да гасцей пасол падкрэсліў: правядзенне такіх праграм важна для дзвюх краін, таму што садзейнічае абмену вопытам паміж вядучымі спецыялістамі Беларусі і ЗША.

Дэніэл Спекхард адзначыў таксама, што гэта акцыя ўрада ЗША сведчыць аб рознабаковым падыходзе яго краіны да супрацоўніцтва з нашай рэспублікай.

*"Мяне як прадстаўніка дружалюбнага вам кітайскага народа вельмі непакоіў часовы "абвал" беларускага рубля, што адбыўся нядаўна. Магу сцвярджаць: кітайскі ўрад заўсёды з разуменнем будзе ставіцца да праблем сяброў і, у прыватнасці, да выбранага Беларуссю эканамічнага курсу. Хто, акрамя вас саміх, лепш ведае сваю спецыфіку, магчымасці і ўмовы? Ніхто з боку не мае права ўмешвацца ў вашы ўнутраныя справы.*

*Я ўжо сустракалася з пасламі некаторых заходніх краін, напрыклад, ЗША, Францыі, Англіі, выслухала іх меркаванне (не заўсёды аб'ектыўнае і правільнае) аб сітуацыі ў Беларусі і заўсёды гаварыла ім, што еўрапейскае супольніцтва не павінна навязваць беларускаму Прэзідэнту сваіх крытэрыяў, падыходаў. На што мне адказалі, што я ўжо моцна палюбіла Беларусь. Ну што ж, а я і не супраць".*

*(З інтэрв'ю Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла КНР у Беларусі У СЯОЦЮ "Народнай газеце").*

*РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ*



На ахвяраванні прыхаджан, сродкі грамадскіх арганізацый і многіх прадпрыемстваў Гродна пабудаваны ў горадзе пры Свята-Пакроўскім кафедральным саборы хрысцільны храм. Цяпер абрады хрышчэння праводзяць тут. Спраектавалі і ўзвялі гэты прыгожы будынак бясплатна праектныя і будаўнічыя арганізацыі горада. На мемарыяльнай дошцы ўнутры храма ўпісаны назвы ўсіх арганізацый, што прынялі ўдзел у будаўніцтве хрысцільні.

НА ЗДЫМКУ: у час абраду хрышчэння.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.

*ГРОШЫ*

### ФАЛЬШЫВЫЯ КУПЮРЫ

У Беларусі ўзрасла колькасць фальшывых банкнотаў. Як паведаміла Упраўленне інфармацыі Нацыянальнага банка, у першым квартале такіх падробак было выяўлена 161, тады як летась за такі ж перыяд — 97.

Больш за ўсё падрабляюць долары ЗША, з якіх асноўную масу складаюць стодоларавыя купюры. Звычайна яны вырабляюцца спосабам плоскага афсетнага друку альбо з дапамогай ксеракапіравання. Але фальшываманетчыкі таксама ўхітраюцца даклейваць на банкнотах нулі і пераклейваць партрэты. Такіх грашовых знакаў было канфіскавана 19.

Выяўлены таксама розных вартасцей фальшывыя нямецкія маркі, расійскія рублі і разліковыя білеты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

*ЧЫТАННІ*

### ТРАДЫЦЫІ КІРЫЛЫ І МЯФОДЗІЯ

У Мінску завяршыліся чарговыя, ужо чацвёртыя па ліку, Міжнародныя кірыла-мяфодзіеўскія чытанні, у якіх прынялі ўдзел вучоныя з усіх абласцей нашай рэспублікі, Расіі, Латвіі і Італіі. У рамках форуму працавалі сем секцый, прысвечаных кірыла-мяфодзіеўскім традыцыям у духоўнай і кніжнай культуры, агульнаславянскай спадчыне ў развіцці пісьменнасці, мовы і літаратуры, праблемам багаслоўскіх даследаванняў і адукацыі.

*ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ*



У Целяханскім доследным лясгасе адзінаццаць лясніцтваў, на тэрыторыі якіх ад мінулагодняга ўрагану пацярпела звыш тысячы гектараў лесу. На буралома цяпер размяшчаюцца маладыя пасадкі, праводзяцца мерапрыемствы, што садзейнічаюць натуральнаму лесаўзнаўленню. У лясгасе не сталі рабіць суцэльных высечак, таму дрэвы, якія выжывуць, будуць натуральнымі насеннікамі будучага лесу.

НА ЗДЫМКУ: лясныя ўгоддзі і пасля ўрагану павінны мець належнае афармленне.

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

"ГЕРМАНІЯ і Беларусь блізкія геаграфічна і з гістарычнага пункту гледжання. Наша будучыня можа быць толькі агульнай", — заявіў Хорст Вінкельман, новы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ФРГ у Рэспубліцы Беларусь пры ўручэнні даверчых грамат Прэзідэнту Беларусі А. Лукашэнку. Прэзідэнт выказаў упэўненасць, што Германія выйдзе на другое месца (пасля Расіі) у гандлі з Беларуссю.

50 МІЛЬЁНАЎ долараў у год складае гандлёвы абарот беларуска-ізраільскіх сумесных прамысловых прадпрыемстваў, якіх налічваецца ўжо больш за 20.

У МАСЕВІЧАХ, што ў Капыльскім раёне, адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага комплексу ў памяць 20 вёсак, якія ў гады вайны таксама, як і Масевічы, былі спалены разам з жыхарамі.

БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІ Саюз прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў створаны ў Мінску. Заснавальнікамі яго сталі Беларуская навукова-прамысловая палата і Маскоўская канфедэрацыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў.

НЕЗВЫЧАЙНЫ фестываль прайшоў на Ісачы, паблізу Дому творчасці пісьменнікаў. Называецца ён — "У народа няма дрэннай прыроды". Яго мастацка-спартыўную накіраванасць забяспечылі каля 20 каманд з Мінска і абласцей рэспублікі. Ад конкурсу несур'ёзнай песні да шматлікіх спаборніцтваў і гульняў — такая была праграма фестывалю.

НЯМЕЦКІ вучоны Эдмунд Лэнгефельд узнагароджаны ордэнам Францішка Скарыны. Прафесар Лэнгефельд — старшыня праўлення радыялагічнага інстытута імя Ота Хуга. Высокай беларускай узнагароды ён удастоены за плённую дзейнасць па развіцці беларуска-германскага супрацоўніцтва ў галіне пераадолення і мінімізацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і асабісты ўклад у ажыццяўленне гуманітарных праектаў.

НОВАЕ перыядычнае выданне мае назву "Юстиция Беларуси". Гэта свой друкаваны орган займела Міністэрства юстыцыі Беларусі. Характар выдання — навукова-практычны часопіс.

ПРАЦЯГЛАСЦЬ газаразмеркавальных сетак Беларусі вырасце сёлета на 600 кіламетраў. Плануецца, што 7 гарадоў атрымаюць прыродны газ, блакітнае паліва прыйдзе і ў дзесяткі невялікіх населеных пунктаў.

## НА ТРАДЫЦЫЯХ СУСВЕТНАЙ КУЛЬТУРЫ





**Гродзенская школа № 36 з польскай мовай навучання самая маладая ў горадзе. Яна пабудавана на грошы, выдзеленыя Рэспублікай Польшча. Абсталявана на сродкі, сабраныя былым гродзенцам, а цяпер рэдактарам Варшаўскага радыё Ляславам Спіндэрам.**

**Тут навучаецца 485 дзяцей з польскіх сямей. Усе настаўнікі школы атрымалі адукацыю ў Польшчы. У аснове выхавання і навучання вучняў багатыя традыцыі польскай, беларускай і сусветнай культуры. Тут ёсць магчымасць развіць індывідуальнасць кожнага вучня.**

**Штогод у школе праводзяцца Дні культуры Польшчы і Беларусі. Вучні часта робяць паездкі ў Польшчу, дзе яны больш глыбока займаюцца вывучэннем польскай мовы.**

**НА ЗДЫМКАХ: у веснавыя дні вучні займаліся азеляненнем прылеглых да школы тэрыторый; вучаніца трэцяга класа Насця ЗУБРЫЦКАЯ і выкладчык пачатковых класаў Марына ВАСІЛЮК на ўроку матэматыкі.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

## АДУКАЦЫЯ

# САХАРАЎСКІ ІНСТЫТУТ. ПРАЗ СЕМ ГАДОЎ

Міжнародны інстытут па радыеэкалогіі імя А. Сахарава (МІРС), адна з самых маладых навучальных устаноў у краіне, можа служыць прыкладам арганізацыі навучальнага працэсу і эфектыўнага міжнароднага супрацоўніцтва.

Сваім станаўленнем Сахараўскі інстытут у многім абавязаны першаму рэктару Аляксандру Люцко, які рана пакінуў жыццё, але паспеў зрабіць МІРС самым вядомым інстытутам за межамі Беларусі. Некалькі гадоў назад энергія і выдатныя творчыя здольнасці прафесара Люцко літаральна пакарылі калег з Кенсінгтонскага універсітэта (Лондан), універсітэта Жуля Верна (Ам'ен) і Гарвардскага універсітэта. Яго ідэі аб рабоце ВНУ знайшлі адлюстраванне ў сумесным праекце, які быў падтрыманы Еўрапейскім саюзам у рамках адпаведнага накірунку вядомай Праграмы тэхнічнай дапамогі для новых незалежных дзяржаў. Разлічаны на тры гады праект атрымаў фінансаванне ў памеры 240 тысяч экю. Летам будуць падведзены канчатковыя вынікі ажыццяўлення праекта, але ўжо цяпер усе ўдзельнікі прызнаюць яго на рэдкасць паспяховым. Сёння Міжнародны інстытут па радыеэкалогіі імя А. Сахарава сапраўды можа прапанаваць не толькі якасную адукацыю ў галіне радыеэкалогіі, радыёбіялогіі і экалагічнай медыцыны, але і арыгінальныя тэхналогіі па структуры ВНУ і арганізацыі навучальнага працэсу.

Інстытут правёў шэраг міжнародных семінараў, апошні з іх на тэму "Стратэгіі гібкага кіравання ВНУ для забеспячэння ўстойлівай якасці адукацыі" прайшоў у сярэдзіне красавіка. У ім прынялі ўдзел не толькі беларускія спецыялісты, але і прадстаўнікі ВНУ Вялікабрытаніі, Швецыі, Расіі, Казахстана. Удзельнікаў віталі пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі Джэсіка Пірс і саветнік па культуры, навуцы і супрацоўніцтву Пасольства Францыі Франсуа Ларан.

А пачалося ўсё сем гадоў назад з Міжнароднага кангрэса памяці Андрэя Сахарава "Свет, прагрэс, правы чалавека", які пастанавіў стварыць у сталіцах рэспублік, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС, вышэйшыя навучальныя ўстановы па падрыхтоўцы спецыялістаў у галіне радыеэкалогіі, радыяцыйнай бяспекі, радыяцыйнай і ядзернай медыцыны, радыяцыйных тэхналогій.

Пры Белдзяржуніверсітэце быў утвораны Міжнародны каледж па радыеэкалогіі імя Сахарава, які пачаў вывучэнне прычын і вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Тады ж аб рабоце каледжа Аляксандра Люцко з'яўляюцца артыкулы ў замежнай прэсе. І адна з англійскіх журналістак знаёміць яго з выкладчыкамі Кенсінгтонскага універсітэта. З гэтай сустрэчы і пачалося супрацоўніцтва беларускага каледжа з англійскім універсітэтам, а неўзабаве адносіны паміж калегамі дзвюх краін перараслі ў шчырую дружбу.

Цяпер каледж стварае ў Хойніках першую доследную станцыю для правядзення студэнцкай практыкі і навукова-даследчых работ. Сродкі Еўрапейскага саюза дапамаглі каледжу, пазней перайменаванаму ў інстытут, набыць сучаснае абсталяванне для навукова-даследчых лабараторый, стварыць не менш каштоўную бібліятэку. МІРС таксама змог расшырыць сваю геаграфію за кошт стварэння філіялаў у Кіславодску і Алма-Аце.

Па словах рэктара Аляксандра Мілюціна, да 2000 года Сахараўскі інстытут плануе падрыхтаваць 1 000 спецыялістаў.

Сахараўскі інстытут мае намер рэалізаваць і новыя праграмы. У Мінску МІРС адкрые экалагічны ліцэй, у якім школьнікі і студэнты малодшых курсаў з Беларусі, краін СНД і Усходняй Еўропы змогуць прайсці поўны курс навучання па экалогіі, радыеэкалогіі, радыемедыцыне. Інстытут таксама плануе наладзіць сістэму падрыхтоўкі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй.

**Кацярына СУХАВА.**
**("Белорусская газета").**

# БЕЛАРУСКІ «ВІЦЯЗЬ»

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.).**

Практычна любы тэлепрыёмнік пры настройцы патрабуе чалавечага ўдзелу для ажыццяўлення рэгуліроўкі пасля зборкі. Аналагава-лічбавае шасі не мае на сваёй плаце ніводнага падстроечнага элемента, што дазваляе практычна поўнасцю зняць "чалавечы фактар" і атрымаць ідэнтычныя электрычныя характарыстыкі кожнага шасі. З гэтай мэтай на ВА "Віцязь" распрацавана і тыражуецца унікальнае абсталяванне, якое дазваляе з дапамогай ЭВМ і адпаведнага адаптэра праводзіць аўтаматычны кантроль параметраў. Пасля аўтаматычнай настройкі патрэбныя параметры заносяцца ў энерганезалежную памяць, дзе захоўваюцца на працягу 10 гадоў. Тыя параметры, якія падлягаюць рэгуліроўцы, пад кінескоп падстройваюцца пры дапамозе пульта дыстанцыйнага кіравання. Такім чынам, чалавечыя рукі ў рэгуліроўцы прыёмніка практычна не ўдзельнічаюць, а аўтаматычная настройка забяспечвае найвышэйшую дакладнасць, надзейнасць і ідэнтычнасць характарыстык. Такая тэхналогія дазваляе павысіць надзейнасць прадукцыі, знізіць працаёмістасць настройкі шасі (яна займае каля чатырох мінут). Для вытворчасці 300 тысяч такіх тэлевізараў у год патрабуецца ўсяго 10 рабочых месцаў.

На ВА "Віцязь" распрацоўваюцца таксама тэлевізары з лічбавай апрацоўкай сігнала і дыяганаллю кінескопа 72 сантыметры, якія будуць выпускацца ў футляры з цэльнага дрэва з металічным кажухом. Такія тэлевізары на Захадзе лічацца экалагічна чыстымі. Тэлепрыёмнік будзе ўкамплектаваны стылізаванай падстаўкай, мець убудаваны модуль "кадр у кадры" і ўбудаваны модуль прыёму спадарожнікавага тэлебачання. Пры жаданні карыстальніка ён можа дадаткова камплектавацца талеркай для прыёму спадарожнікавага сігнала.

Вытворчае аб'яднанне "Віцязь" удзельнічае ў праграме "Беларускі тэлевізар". У канцы мінулага года прадпрыемства наведаў у той час віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч. Ён агледзеў вытворчыя магчымасці, азнаёміўся э фінансавымі паказчыкамі завода і паабяцаў забяспечыць выдзяленне крэдыту ў размеры 2,8 мільёна долараў, які да гэтага часу не атрыманы. Гэтую суму прадпрыемства збіралася патраціць на набыццё старых і адпрацаваўшых свой рэсурс тэрмапласт-аўтаматаў, без якіх немагчымая вытворчасць тэлевізараў з вялікімі дыяганалямі. Сёння 100 працэнтаў футляраў для тэлевізараў выпускаецца з пластмасы ўласнага дызайна. К канцу года плануецца мець на тэлевізары кожнай дыяганалі па два камплекты аснасткі з розным дызайнам. Тады ж запланавана пачаць выпуск тэлевізараў у пластмасавым футляры ўласнай распрацоўкі з дыяганаллю 63 сантыметры.

Аднак для ажыццяўлення гэтых планаў патрэбны сродкі, якіх завод сёння не мае: адзін тэрмапласт-аўтамат каштуе каля 500 тысяч долараў. Ёсць і іншыя праблемы, бо, акрамя праграмы "Беларускі тэлевізар", існуе яшчэ і праграма імпартазамяшчэння, у рамках якой "Віцязь" працуе з многімі вытворцамі элементнай базы як у Беларусі, так і ва ўсёй СНД. У рамках краіны многія камплектуючыя пастаўляе ВА "БелВАР", нямала мікрасхем забяспечвае ВА "Інтэграл" — адзінае ў свеце прадпрыемства, што змагло паўтарыць камплект мікрасхем "Філіпса", базай якога з'яўляецца звышвялікая інтэгральная мікрасхема. Акрамя гэтага, "Інтэграл" вырабляе мікрасхему ўзмацняльніка нізкай частаты, мікрасхему памяці, мікрасхему кіравання. На "Віцязі" сочаць за новымі распрацоўкамі айчынных прадпрыемстваў, ахвотна ідуць на кантакты з новымі пастаўшчыкамі. Аднак нярэдкія выпадкі, калі элементы, выпускаемыя беларускімі вытворцамі, аказваюцца больш дарагімі і менш якаснымі, чым тыя, што прапаноўваюцца "Філіпсам".

Што тычыцца славутай праграмы "Беларускі тэлевізар", то трэба заўважыць, што айчынны тэлевізар не можа існаваць без беларускага кінескопа, завода ж па вытворчасці апошняга ў Беларусі няма, і будаўніцтва такога прадпрыемства не прадбачыцца. А паколькі тэлевізар — гэта ў першую чаргу кінескоп і уніфікаванае шасі, то ўзнікае пытанне, наколькі ўвогуле правамерна гаварыць аб магчымасці стварэння ўласнага тэлевізара пры адсутнасці базы, якая б пастаўляла асноўныя элементы, і аб мэтазгоднасці прыняцця праграмы з такой назвай.

Сёння "Віцязю" даводзіцца закупляць кінескопы за мяжой, напрыклад, у літоўскім Панявежысе. Аднак найбольш плённыя адносіны ў завода склаліся з фірмай "Філіпс", якая пастаўляе сюды не толькі кінескопы. Праз размешчанае ў Мінску прадстаўніцтва "Філіпс" на "Віцязь" рэгулярна паступаюць новыя тэхналогіі, мікрасхемы — словам, большая частка элементнай базы, якая выкарыстоўваецца для аналагава-лічбавага тэлевізара. Прычым вядомая фірма пастаўляе зусім не стары тавар, а мікрасхемы, якія з'явіліся нядаўна. Акрамя таго, адбываецца пастаяннае зніжэнне цэн, "Філіпс" забяспечвае "Віцязь" таварнымі крэдытамі: усе камплектуючыя, якія віцебскае прадпрыемства атрымлівае ад "Філіпса", паступаюць без перадаплаты; разлік праводзіцца на працягу месяца.

Кошт кінескопа, выпускаемага ў Панявежысе для тэлевізара з дыяганаллю экрана 51 сантыметр, складае 58—60 долараў, а за кінескоп, што выпускае "Філіпс", завод плаціць 132 нямецкія маркі. Адпаведна ў першым выпадку тэлевізар каштуе 185—190 долараў, а ў другім — прыкладна на 10 долараў даражэй. Зрэшты, больш нізкая цана далёка не заўсёды дазваляе пакупніку быць у выйгрышы: працэнт вяртання беларускіх тэлевізараў сёння прыкладна ў два разы вышэйшы, чым тэлевізараў заходняй вытворчасці. Аднак як бы там ні было, прырост вытворчасці летась склаў 35 працэнтаў.

На ВА "Віцязь" створана так званая аналітычная група, работа якой дазволіла знізіць выдаткі на набыццё камплектацыі за мінулы год больш чым на мільён долараў. Пры гэтым адзначаецца тэндэнцыя да павышэння якасці выпускаемых тэлевізараў.

Сёння практычна ўсе расійскія заводы, што выпускалі тэлевізійныя прыёмнікі (акрамя размешчанага ў Аляксандраве), знаходзяцца ў цяжкім становішчы — прадпрыемстваў, здольных скласці сур'ёзную канкурэнцыю прадукцыі "Віцязя" і "Гарызонта", у Расійскай Федэрацыі няма. Сюды ідзе немалая частка "Віцезяў", бо яшчэ некалькі гадоў назад на тэрыторыі былога Савецкага Саюза была створана вялікая сетка беларускага прадпрыемства з 80 філіялаў, якія ажыццяўляюць рэалізацыю і гарантыйны рамонт прадукцыі віцебскага завода. Афіцыйна ў Расію ідзе каля 30 працэнтаў тэлевізараў. Аднак далёка не ўсе з астатніх 70 працэнтаў затрымліваюцца ў Беларусі — асноўная частка таксама трапляе ў РФ праз дробныя фірмы.

Не так даўно партыя тэлевізараў была пастаўлена пад зборку ў Іран, плануецца доўгатэрміновае супрацоўніцтва з іранскай фірмай па сумеснай вытворчасці тэлевізараў. Называцца яны будуць не "Віцязь", а "Парсена" (што азначае гэтае слова ў перакладзе з фарсі на віцебскім заводзе не ведае ніхто).

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

З ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# АКУПАЦЫЯ

## 4. «ПРАЦІЎНІК ПАВІНЕН АТРЫМАЦЬ... НЕЗАСЕЛЕНУЮ ПУСТЫННУЮ ЗЯМЛЮ...»

Нямецка-фашысцкія захопнікі не толькі грабілі насельніцтва, калгасы, саўгасы, прамысловыя прадпрыемствы, а імкнуліся ператварыць тэрыторыю СССР у мёртвую зону. Пры адступленні нямецкія ваенныя ўлады выдалі загады аб суцэльным разбурэнні гарадоў і вёсак, якія пакідалі.

У сувязі з адступленнем з Кубані Гітлер выдаў 4 верасня 1943 года дырэктыву аб разбурэнні ўсіх ваенных і грамадзянскіх аб'ектаў, населеных пунктаў, дарог, прамысловых прадпрыемстваў, портаў і ўсяго, што магло быць выкарыстана савецкімі войскамі. У гэтай жа дырэктыве Гітлер патрабуе: "... ж) Праціўнік павінен атрымаць зусім непрыгодную на доўгі час, незаселеную пустынную зямлю, дзе на працягу месяцаў будуць адбывацца ўзрывы мін". Практычна гэта азначала ператварэнне Кубані ў зону пустыні.

У загадзе нямецкага камандавання ад 7 верасня 1943 года, атрыманым штабам 466-га пяхотнага палка, указваецца: "У выпадку адыходу належыць поўнасцю знішчыць на тэрыторыі, якая пакідаецца, усе збудаванні і запасы, якія ў якой-небудзь ступені могуць аказацца карыснымі для ворага: жылыя памяшканні (дамы, бліндажы), машыны, млыны, калодзежы, стагі сена і саломы.

Усе без выключэння дамы спальваць; печы ў дамах узрываць з дапамогаю ручных гранат; калодзежы прыводзіць у непрыгоднасць, знішчаць пад'ёмныя прыстасаванні, а таксама кідаючы ў іх нечыстоты (падлу, гной, кізякі, бензін); стагі з саломай і сенам, а таксама ўсякага роду запасы спальваць; сельскагаспадарчыя машыны і слупы стацыянарных правадных ліній узрываць; паромы і лодкі затапляць.

Разбурэнне мастоў і мініраванне дарог ускладваецца на сапёраў. Абавязкам кожнага з'яўляецца забяспечыць, каб тэрыторыя, якая пакідаецца, на працягу доўгага часу не магла выкарыстоўвацца ні для якіх мэт у ваенных і сельскагаспадарчых адносінах".

У загадзе па 512-му пяхотнаму палку ад 10 снежня 1943 года аб ператварэнні ў зону пустыні населеных пунктаў пры адступленні ўказваецца: "13. Для забеспячэння поўнага разбурэння ўсе дамы павінны быць спалены, у каменныя дамы належыць папярэдне нанасіць саломы. Існуючыя каменныя будынкі павінны быць узарваны, прычым неабходна разбурыць таксама падвалы.

Меры па стварэнню зоны пустыні маюць рашаючае значэнне для вядзення зімніх баявых дзеянняў і павінны быць таму падрыхтаваны і праведзены поўнасцю і бязлітасна.

14. Для лепшага абсталявання бліндажоў на зімніх пазіцыях, якія будуць намі заняты, дазваляю забіраць з разбураных населеных пунктаў маёмасць, пакінутую жыхарамі: напрыклад, газу, аконнае шкло, цвікі, патэльні, горкі, лямпы, крэслы, вёдры, абсталяванне канюшань, вяроўкі, мяшкі, харчы (цыбулю, агуркі, бульбу, проса). Жывёлу забіраць з сабой, плацячы за яе.

Шацінг".

У загадзе імперскага кіраўніка СС Гімлера гаворыцца: "У сувязі з адыходам на захад, забяспечцеся ўсімі наяўнымі ў вашым распараджэнні сродкамі, каб у абласцях, што аддаюцца ворагу, не заставалася ніводнай рэйкі і былі ўзарваны ўсе шпалы. Увесь хлеб да апошняга цэнтнера павінен быць адгружаны".

Разбураючы гарады і іншыя населеныя пункты, нацысцкія правіцелі разлічвалі стварыць хаос у СССР. "Хаос у Расіі будзе тым большы, наша кіраванне і эксплуатацыя акупіраваных абласцей будзе тым лягчэйшым, чым больш насельніцтва савецкіх рускіх гарадоў пойдзе ва ўнутраныя раёны Расіі".

Летам 1944 года фашысты, адступаючы пад напорам Чырвонай Арміі і партызан, у злосці імкнуліся ўсё знішчыць на сваім шляху, хапалі людзей, здзекаваліся з іх і расстрэльвалі. У вёсцы Альшанцы Валожынскага раёна немцы арыштавалі групу грамадзян і падверглі катаванням, а затым многіх з іх расстралялі. Сярод арыштаваных апынуўся і Альбін Сея, тады 5-гадовы хлопчык. Ён цудам застаўся жывы. Фашыст жорстка збіў яго, спрабаваў вешаць, заламаў рукі, а затым выстраліў у яго. Куля прашыла грудзі, перабіла правую руку вышэй локця. Але ён выжыў, хоць застаўся інвалідам (без рукі) на ўсё жыццё.

Акупанты прычынілі Беларусі незлічонныя страты. Яны спалілі і разбурылі 209 гарадоў, а ў іх больш за 8 мільёнаў квадратных метраў жылога фонду, 10 тысяч прадпрыемстваў, 9 200 вёсак, 1,2 мільёна дамоў, высеклі 104 гектары лесу, 33 тысячы гектараў садоў.

З мэтай прадугледжанага планам "Ост" скарачэння насельніцтва на Беларусі было створана 260 лагераў смерці, праведзена больш за 140 карных экспедыцый, у час якіх нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі 619 вёсак з жыхарамі. За гады акупацыі на Беларусі знішчана 2 мільёны 200 тысяч чалавек, на работы ў Германію вывезена 380 тысяч чалавек, спалена разам з насельніцтвам 628 вёсак. За гады вайны загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

У ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»



# НАВОШТА ЧАЛАВЕКУ КАРАНІ?

Госцяй таварыства "Радзіма" нядаўна была наша зямлячка з Аргенціны Зянона Сабчук. Напісала "наша зямлячка" і задумалася, ці можна яе так называць. Зянона нарадзілася і ўсё жыццё пражыла ў Лацінскай Амерыцы. І толькі прыкладна дзесяць гадоў таму ўпершыню наведала Беларусь, вёску пад Баранавічамі. Адтуль у 1926 годзе яе бацька Канстанцін Арцюх паехаў за акіян, спадзеючыся зарабіць грошай. У Буэнас-Айрэсе вясковаму хлопцу не спадабалася. У правінцыі Абера яму далі 25 гектараў зямлі, якую трэба было яшчэ распрацоўваць. Горада Абера тады не было. Ён рос разам з дачкой Канстанціна Арцюха Зянонай. Зараз у ім 55 тысяч жыхароў.

У час работы Першага з'езда беларусаў свету, на які прыязджалі беларусы з Аргенціны, Пётр Краўчанка, тады міністр замежных спраў Беларусі, назваў Абера горадам-пабрацімам нашага Маладзечна. І ў знак пабрацімства мэр Маладзечна С. Татарыновіч гэтым разам уручыў Зяноне Канстанцінаўне баян для Рускай абшчыны ў Аргенціне, зроблены на Маладзечанскай фабрыцы музычных інструментаў.

Дык вось, Зянона Сабчук нарадзілася і вырасла ў Аргенціне, а яе дзеці ўсё жыццё называлі маці фанаткай Расіі (за мяжой увесь былы вялікі Савецкі Саюз называлі Расіяй).

— І толькі калі самі потым пабывалі ў краіне сваіх дзядоў, то зразумелі, чаму я яе так люблю.

А і сапраўды, адкуль такое вялікае прыцягненне да зямлі далёкай і, бадай, незнаёмай? Некалькі разоў у час сустрэчы Зянона Сабчук вымаўляла слова "карані".

— Калі першы раз прыехала ў Беларусь і з дапамогай супрацоўнікаў таварыства "Радзіма" знайшла сваякоў, вызначыла свае карані па бацькавай лініі, а мой корань па маці — украінскі. Сям'я ў нас была інтэрнацыянальная. Жылі дружна. Бацька вучыў дзяцей сваёй мове, маці — сваёй.

Зянона Сабчук пяць гадоў была старшынёй Рускай абшчыны ў горадзе Абера. Мясцовыя ўлады заўсёды добразычліва ставіліся да эмігрантаў, аказвалі дапамогу. У абшчыну ўваходзяць рускія, беларусы, украінцы. А нядаўна Зянона Сабчук стала ганаровым консулам Расійскай Федэрацыі ў сваім родным горадзе і менавіта па запрашэнні Расіі з 13 па 30 красавіка гасціла ў гэтай краіне. У час свайго афіцыйнага візіту яна наведала Маскву, Перм, іншыя гарады, а потым прыехала ў Беларусь.

Зянона Канстанцінаўна не тое, каб скардзілася, але са шкадаваннем гаварыла, што ў апошнія гады неяк аслабелі сувязі ў беларусаў з іх Бацькаўшчынай. Па прыватных запрашэннях ездзяць адзін да аднаго ў госці, а вось дзяржаўнай падтрымкі не маюць.

— Мы адчулі сябе адарванымі ад Радзімы. Калі беларусы са сваімі праблемамі ідуць у Расійскае пасольства, ім гавораць: "А вы не нашы". Мы нібы сіроты, і нам балюча гэта адчуваць. Бо ўсіх беларусаў аб'ядноўвае тое, што ніяк нельга згубіць, пра што трэба помніць, — нашы агульныя карані.

Зноў гэта слова — карані. Каб не адчуваць сябе бязродным і нікому непатрэбным, чалавеку неабходна ведаць, адкуль ён паходзіць, дзе пачатак яго роду і які ён, гэты род.

Беларускае таварыства "Радзіма" заўсёды падтрымлівала кантакты з аргенцінскімі землякамі. Прыязджаючы ў Беларусь, яны завітвалі ў таварыства, атрымлівалі дапамогу — кнігі, падручнікі, газеты. У рэдакцыю "Голасу Радзімы" ішлі пісьмы з падзякай за газету, бо яна часта была адзінай крыніцай інфармацыі аб усім, што адбывалася ў іх роднай вёсцы, горадзе. Апошнім часам у сувязі з тым, што страшэнна павысіўся кошт перасылкі (асабліва авія), "Голас Радзімы" ў Аргенціну амаль не пасылаецца. Землякі не атрымліваюць навін з Бацькаўшчыны.

У горадзе Ла-Плата мясцовыя ўлады прадастаўляюць магчымасць рускім, украінцам, беларусам, літоўцам перадаваць свае праграмы па радыё на іх роднай мове. Беларусы такую магчымасць не выкарыстоўваюць, таму што не маюць інфармацыі аб жыцці на іх Радзіме. Зянона Сабчук прасіла магнітныя касеты з запісамі беларускай музыкі, танцаў, песень. "Усё гэта важна нам дзеля захавання сваіх каранёў", — сказала яна.

На сустрэчы ў таварыстве "Радзіма" прысутнічаў начальнік Аддзела Лацінскай Амерыкі Міністэрства замежных спраў Беларускі Уладзімір Пішчака (між іншым, былы супрацоўнік таварыства "Радзіма"). З Зянонай Сабчук знаёмы даўно, ведае праблемы аргенцінскіх беларусаў. Расказваючы аб тым, што ў бліжэйшы час Лацінскую Амерыку з афіцыйным візітам збіраецца наведаць міністр замежных спраў Іван Антановіч, выказаў надзею, што справы ў землякоў павінны палепшыцца. У Аргенціне мяркуецца адкрыць Беларускае пасольства.

А пакуль, ад'язджаючы дадому, Зянона Сабчук павезла з сабой дзяржаўную сімволіку — флаг і герб Беларусі, баян, кнігі, касеты з запісамі беларускіх песень і, вядома, уражанні ад сустрэчы з блізкімі людзьмі, сябрамі, з зямлёй продкаў, адкуль бярэ пачатак яе род, дзе яе карані.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКУ: у час прыёму ў таварыстве "Радзіма". Зянона САБЧУК — крайняя справа.**

НАМ ПІШУЦЬ

# КАБ ПОМНІЛІ

*Там за лесам-борам,*
*На апецы Боскай,*
*Як нядолі сведка,*
*Села наша вёска.*

**Янка КУПАЛА.**

Прачытала ў № 16 "Голасу Радзімы" нататкі Т. Нарачанскай пра горад Лагойск. І мне захацелася падзяліцца ўражаннямі. У мінулым годзе, летам, давялося два тыдні адпачываць на Лагойшчыне. Мяне ўсё цікавіла, упершыню давялося пабываць на зямлі Я. Купалы, З. Бядулі, Н. Гілевіча. Цудоўныя, непаўторныя краявіды: узвышшы, рэкі, азёры, лясы, рэдкія дрэвы, расліны. Багатая гісторыя Лагойшчыны. Гэтая зямля дала нашаму краю вядомых паэтаў, пісьменнікаў, народных майстроў, знакамітых ганчароў і проста таленавітых людзей, якіх ведаюць далёка па-за межамі Беларусі.

Ды не ўсё так цудоўна... Ад убачанага і пачутага баліць душа, хочацца крычаць. За што ж так Бог пакараў людзей?! Не хочацца верыць, што жывуць "Иваны, не помнящие родства". Мне так хацелася пакланіцца магіле братоў Тышкевічаў, тых, хто заснаваў горад. І што ўбачыла: каб прабрацца да касцёла, трэба было патраціць час і высілкі: крапіва, лебяда ў рост чалавека, агароджа — таксама. Усё вакол перакапана, ішла будоўля, працаваў экскаватар. Ад магілы нічога не засталося, прысутныя, якія працавалі, нічога не бачылі і не ведалі нават, хто такія Тышкевічы. Хацелася крыкнуць: "Людзі, што ж вы робіце? Вы закапалі гісторыю, памяць". Нічога ў жыцці не праходзіць бясследна, за ўчынкі прыйдзе расплата, і самае страшнае, што прыйдзецца расплачвацца нашчадкам. У вёсцы Корані зруйнаваны могілкі, дзе знайшлі апошняе прыстанішча бацька Я. Купалы Дамінік Луцэвіч, брат Казік, дзве яго сястры — Сабіна і Гэля, на месцы могілак пабудаваны клуб.

Старажытны парк у запусценні, вакол смецце, сумна глядзець на рэшткі графскага палаца славутых Тышкевічаў на Замкавай гары.

У горадзе няма ніводнай кніжнай крамы, і не толькі ў Лагойску, але ў многіх гарадах Беларусі закрываюцца кнігарні, бібліятэкі — рэаліі цяперашняга часу. У адной краме, ва універмагу, ёсць куточак, дзе гандлююць "забornай" літаратурай, і ніводнай кнігі на беларускай мове. Прапанавалі ўзяць некалькі кніг беларускіх аўтараў, дык аж рукамі замахалі, так напалохаліся: відаць, забаронена. Людзі засмучаныя, стомленыя, такое ўражанне, што жывуць адным днём. Мала хто ведае, што ў Харужынцах ёсць музей Я. Купалы, што ў Акопах ён напісаў свае лепшыя творы.

Доктар санаторыя, да якога звярнулася на беларускай мове, катэгарычна запратэставаў: "Ко мне обращаться только по-русски". Дырэктар Янушкавіцкага дома культуры, запрашаючы на канцэрт "Ищем таланты", папярэдзіў: "Петь и читать стихотворения только на русском языке. Не надо портить русский язык белорусским. Хватит радио треплет по-белорусски". Вось так! Тут каментарыі не патрэбныя. Сумныя засталіся ўражанні, на душы рана. Можа таму, што ў мяне ёсць з чым параўноўваць, рабіць высновы.

Мінулым летам прайшоў страшны ўраган, пацярпелі суседнія з Лагойскім раёны: Стоўбцы, Валожын. Па дарозе ў Вільнюс, вяртаючыся дадому, можна было ўбачыць зламаныя, перакручаныя, вывернутыя дрэвы, панура "глядзелі" на дарогу вясковыя хаты без дахаў, знесеныя ўраганам. Бог паказаў сваю моц і сілу. Гэта напамін. Продкі помсцяць, іх трэба помніць.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільня.

# КНІГА ПРАДСЛАВЫ






825 гадоў праменнай памяці пакінула суайчыннікам полацкая князёўна Прадслава. З яе манаскім імем — Ефрасіння — спалучана духоўнае ўзвышэнне Полацкай зямлі. Ігумені-асветніцы, першай жанчыне на Русі, кананізаванай у святыя, нябеснай заступніцы Беларусі і прысвечаны чарговы выпуск зборніка гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына".

Кніга, выпраўленая ў свет выдавецтвам "Юнацтва", пачынаецца словамі з Паслання Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. У прадмове ўкладальніка гаворыцца аб свецкіх ушанавальніках унучкі Усяслава Чарадзея — паломніках да святыняў, чыннасці Усебеларускага жаночага фонду святой Ефрасінні Полацкай і Міжнароднага дабрачыннага фонду Жыватворнага Крыжа святой Ефрасінні. Згадваецца, што ў стварэнні копіі крыжа Лазара Богшы брэсцкаму мастаку-ювеліру М. Кузьмічу спрыялі такія рупліўцы, як А. Лук'янчык з ЗША, М. Сулкоўскі і А. Сілівончык з Расіі.

Увесь змест кнігі Прадславы ўяўляе сабою ўшанаванне мастацкім словам прападобнае Маці нашае, якая яшчэ ў XII стагоддзі спадзявалася на духоўны плён працы сваіх суродзічаў. З усяго напісанага пра пуцяводную зорку беларусаў можна было б скласці багаты шматтомнік. Выбрана ж тэкстаў на 20 аркушаў, з якіх атрымаліся тры раздзелы. У першы — "Пуцяводная зорка" — увайшлі празаічныя творы Т. Бондар, В. Іпатавай, В. Ластоўскага, А. Лойкі, А. Петрашкевіча, С. Тарасава. Папярэднічае гэтай салíднай падборцы своеасаблівы ўступ В. Шалькевіча.

А вось уступ да наступнага раздзела — "Малюся я небу, зямлі і прастору..." — напісаў У. Гніламёдаў. Даследаванне традыцыяў Прадславы ў беларускай паэзіі "падсвечваецца" вершамі М. Багдановіча, І. Багдановіч, Р. Барадуліна, А. Бембеля, Д. Бічэль-Загнетавай, Н. Гальпяровіча, С. Грахоўскага, М. Гусоўскага, Л. Дайнекі, Л. Дранько-Майсюка, В. Жуковіча, Л. Забалоцкай, А. Звонака, В. Зуёнка, В. Іпатавай, М. Кавыля, Якуба Коласа і Янкі Купалы, С. Лапіцкай, А. Лойкі, Е. Лось, В. Лукшы, Я. Мальчэўскай, М. Мятліцкага, С. Панізьніка, Л. Паўлікавай, У. Пецюкевіча, А. Пісарыка, Сімяона Полацкага, А. Разанава, Л. Рублеўскай, Л. Тарасюк, Я. Чачота.

Прадмовай І. Багдановіч пачынаецца апошні раздзел зборніка — "Не пакіну вас..." З нарысамі, эсэ выступаюць тут У. Арлоў, І. Ждановіч, Г. Запартыка, В. Коўтун, А. Кудрашоў з Латвіі, А . Марціновіч і "дачка Украіны" В. Шымановіч, як сказала пра сябе аўтарка нарыса "Беларусь — зямля святая".

## З ГІСТОРЫІ ЗАМАХУ НА У. І. ЛЕНІНА

# «ЧЫРВОНАЯ КРОЎ»

Каплан... Вымаўляючы гэтае імя, кожны з нас бачыць адно і тое ж: сцэну з кінафільма трыццатых гадоў. Страшная, ашчэраная, уся ў чорным, з раскудлачанымі валасамі, схопленая за рукі абуранымі рабочымі, — і ля яе ног, на брусчатцы, правадыр, які сцякае крывёю, але вымаўляе ўладна і цвёрда: "Спакойна, таварышы! Трымайцеся арганізавана!" У саракавыя-пяцідзесятыя гады імя Каплан было сінонімам барацьбы з касмапалітызмам; у шасцідзесятыя-сямідзесятыя — персанажам анекдотаў пра Ільіча; у апошняе дзесяцігоддзе — гэта адна з самых прыцягальных фігур "праклятага мінулага"...

### ФАЛЬШЫВЫ ПАШПАРТ

На допыце ў наркома юстыцыі Д. Курскага вечарам 30 жніўня 1918 года наша гераіня паказала: "Я, Фані Яфімаўна Каплан, жыла да 16 гадоў пад прозвішчам Ройдман. Нарадзілася ў Валынскай губерні, павета не памятаю. Бацька мой быў яўрэйскі настаўнік. Цяпер уся мая сям'я паехала ў Амерыку". Той жа ноччу, даючы паказанні намесніку старшыні ВЧК Я. Петэрсу, Каплан паведаміла, што "пад гэтым прозвішчам жыла з 1906 года". У пераважнай большасці хрэстаматыйных мемуарных крыніц і артыкулаў яна называецца альбо Каплан, альбо Ройдман (іншы раз апошняе прозвішча скарачаецца да Ройд). І толькі ў вельмі рэдкай кнізе — зборніку "На жаночай катарзе", выпушчаным пад рэдакцыяй Веры Фігнер у 1930 годзе, змешчаны невялікі некралог, у якім зафіксавана: "Ройтблат-Каплан Фейга Хаімаўна (па артыкульным спісе Нерчынскай катаргі, а з пісьма яе бацькі відаць, што яго звалі Файвель) нарадзілася ў 1888 годзе, яўрэйка, па прафесіі белашвейка, адукацыя хатняя. Арыштавана ў Кіеве як анархістка-камуністка пры выбуху бомб, якія яна перавозіла. Прыгаворана ў Кіеве ваенна-палявым судом 30 снежня 1906 года да бестэрміновай катаргі. Катаргу адбывала ў Мальцаўскай і Акатуйскай турмах. У турме страціла зрок. Пазней пад уздзеяннем электрызацыі зрок часткова вярнуўся. Па царскім маніфесце 1913 года тэрмін катаргі скарочаны да 20 гадоў. Вызвалена Лютаўскай рэвалюцыяй 1917 года. Расстраляна ў верасні 1918 года за замах на У. І. Леніна".

Такім чынам, найбольш верагодным прозвішчам Фані-Фейгі Яфімаўны-Файвелеўны трэба лічыць Ройтблат. Сапраўднасць гэтага прозвішча можна, зрэшты, праверыць толькі пры дапамозе метрычнага запісу. Але для гэтага патрабуецца ўстанавіць дакладны час і месца яе нараджэння. На жаль, па дакументах Дэпартамента паліцыі гэта зрабіць складана.

Сярод матэрыялаў справы Асобага аддзела Дэпартамента "Анархісты. Па Кіеўскай губ." ёсць рапарт кіеўскага губернатара П. Курлова ад 23 снежня 1906 года: "Кіеўскі паліцмайстар данёс мне, што 22 гэтага Снежня, у 7 гадзін вечара, па Валошскай вуліцы на Падоле, у доме № 9, у адным з нумароў 1-й купечаскай гасцініцы, адбыўся моцны выбух. З нумара выскачылі мужчына і жанчына і кінуліся на вуліцу, але тут жанчына была затрымана прысутнай публікай і гарадавым Плоскага ўчастка Брагінскім, а мужчына ўцёк. Пры вобыску ў затрыманай жанчыны знойдзены рэвальвер, "браўнінг", заражаны 8-ю баявымі патронамі, пашпарт на імя Фейгі Хаімаўны Каплан, дзяўчыны, 19 год, мадысткі, выдадзены Рэчыцкім Гарадскім Старастам Мінскай губерні 16 верасня 1906 года за № 190, а таксама чысты бланк пашпартнай кніжкі, вокладка якога запэцкана свежай крывёю..."

Мяркуючы па ўсім, пашпарт, з якім тэрарыстка прыехала ў Кіеў і пасялілася ў гасцініцы, быў фальшывым. Не выключана, што ён быў пазычаны Ройтблат у эсэркі Фані Каплан — рэальнай фігуры, што праходзіла па адной са спраў Мінскага губернскага жандарскага ўпраўлення ў 1907 годзе.

### «НЯДОБРАЯ КВАТЭРА» І «КРЫМСКІ ПРЫСТАНАК»

З сакавіка 1917 года начальнік Акатуеўскай турмы паведаміў паліткатаржанкам аб распараджэнні новага міністра юстыцыі А. Керанскага вызваліць з-пад варты бестэрміноўніц Біцэнка, Ізмайловіч, Спірыдонаву, Цярэнцьеву, Ройтблат і некалькіх доўгатэрміноўніц. Яны ад'язджалі ў арыштанцкіх халатах (іншага адзення не было) на пяці тройках, везучы з сабой кнігі і асабістыя рэчы. Перад самым ад'ездам схадзілі пакланіцца магіле дзекабрыста Луніна. Амаль паўсюль на іх шляху да Чыты катаржны караван сустракалі натоўпы людзей...

Дом № 10 па Вялікай Садовай добра знаёмы масквічам: старажылам — як "дом Пігіт", нашым сучаснікам — як "дом Булгакава". Пабудаваў яго ўладальнік тытунёвай фабрыкі "Дукат", які займаў у доме, што насіў яго імя, бельэтаж. Тут наймалі студыі мастакі П. Канчалоўскі і Г. Якулаў. Тут адбылося знаёмства Сяргея Ясеніна з Айсядорай Дункан. Зімой 1922/1923 года ў доме пасяліўся Міхаіл Булгакаў. Менавіта тут, у кватэры № 5, у сваёй сяброўкі па катарзе, сваячкі домаўладальніка, у красавіку 1917 года спынілася наша гераіня.

З першапрастольнай яна адправілася падлячыцца і адпачыць на поўдзень, у Дом катаржан у Еўпаторыі. Над ім шэфствавалі мясцовыя арганізацыі сацыялістычных партый. Іншы раз насельнікі Дома катаржан наведвалі рабочыя мітынгі і сходы, прысутнічалі на пасяджэннях мясцовага Савета. Летам 1917-га "Крымскі прыстанак" заліхаманіла ад супярэчлівых звестак аб падзеях у Петраградзе. Ф. Ройтблат была адной з нямногіх, хто безагаворачна падтрымліваў палітыку Часовага ўрада.

У жыццяпісу блізкай знаёмай Каплан Фаіны Стаеўскай, складзеным яе мужам Віктарам Баранчанкам (1892—1980) — да рэвалюцыі анархістам, з 1918 года — камуністам, членам калегіі Крымскай ЧК, а затым "чырвоным дырэктарам", сказана: "З вялікімі вачыма, пышна прычасаная, яна мала падобная была на агульнавядомы тып нігілісткі. Яе можна было прымаць за распаўнелую акушэрку, фельчарку... Няма чаго граху таіць, у многіх выпадках дружбы перараcталі тут, у знойнай Еўпаторыі, у нешта большае. Ад некаторых старых паліткатаржан зацяжарвалі маладыя сакавіцкія сацыялісткі... Адны з такіх сувязяў неўзабаве заканчваліся, а іншыя перараcталі ў трывалыя вузы на ўсё жыццё. Быў тут раман такі і ў падслепаватай Ройтблат". Імя яе абранніка ў тэксце не названа — аднак лёгка ўгадваецца.

Справа ў тым, што апрача мемуараў захаваўся яшчэ адзін расказ Баранчанкі ў літаратурным запісе Сямёна Рэзніка, які працаваў у 60-я гады рэдактарам серыі "Жыццё славутых людзей": "Дзмітрый Ільіч быў выпівака і весялун. Баранчанка не раз дапамагаў яму выбірацца з вінных склепаў, у якіх Дзмітрый Ільіч так напіваўся крымскім вінам, што выбрацца адтуль без пабочнай дапамогі яму ўдавалася далёка не заўсёды. Дзмітрый Ільіч любіў заляцацца да прыгожанькіх жанчын. Асаблівую ўвагу ён аказваў Фані Каплан, якая была вельмі прыгожай і карысталася поспехам у мужчын".

Менавіта ваенурач Дзмітрый Ульянаў, малодшы брат Леніна, рэкамендаваў Каплан паехаць у Харкаў да вядомага афтальмолага Л. Гіршмана, пра якога гаварылі як пра сапраўднага чараўніка. А. Коні, напрыклад, пісаў, што, "разам з бліскучымі афтальмалагічным дыягназам і прадуманым прагнозам, у Гіршмана былі спагадлівыя, амаль пяшчотныя адносіны да душы пацыента..." Ёсць сведчанні таго, што Гіршман быў прыхільнікам Зігмунда Фрэйда.

Што тварылася з душой Фейгі ў Харкаве — загадка. Але загадка, магчыма, вырашальная.

### ЯЕ «СІМВАЛ ВЕРЫ»

Вестку аб кастрычніцкім перавароце Каплан успрыняла адмоўна. Але асабліва ўразілі яе крывавыя расправы з афіцэрамі і "буржуямі" ("Варфаламееўская ноч" у Севастопалі і іншыя) зімой 1918 года. Не мог не абурыць яе і разгон "Учредилки".

Цікавая размова адбылася ў лютым 1922 года паміж членам ЦК партыі эсэраў Д. Данскім і левай эсэркай Бертай Бабінай у Бутырскай турме.

— Скажыце мне, як магло здарыцца, што эсэрка Фані Каплан па заданні ЦК пайшла забіваць Леніна?

— Вы так упэўнены, што Каплан была эсэркай?

— Але ж аб гэтым пісалі і пішуць усе газеты — і нашы, і замежныя... І гавораць на кожным перакрыжаванні!

— Дык вось, мілачка, перш за ўсё ўстановім: ніколі Фані Каплан не была членам нашай партыі... Ні на катарзе, ні пазней яе сярод нас не было, і ўвогуле, амаль ніхто, акрамя катаржан-акатуйцаў, яе не ведаў. Гэта першая акалічнасць. Цяпер другая. Яна сапраўды прыходзіла да нас, і менавіта да мяне асабіста, з прапановай паслаць яе забіць Леніна... Помню, паляпаў я яе па плячы і сказаў ёй: "Пайдзі ты праспіся, мілая! Ён — не Марат, а ты — не Шарлота Кардэ... Ты трапіла не па адрасу. Даю добрую параду — выкінь гэта ўсё з галавы і нікому больш пра тое не расказвай!" Ну, потым, як вам вядома, яна, на вялікі жаль, усё ж выканала свой вар'яцкі план і тым нямала нам нашкодзіла!..

— Як? — адказаў ён на маё маўклівае пытанне. — Вельмі проста! Сабрала юнакоў, такіх жа псіхапатаў, як сама! Зброю, як вы ведаеце, здабыць у той час было вельмі проста. А звярнулі ўсё гэта на нас — так лягчэй расправіцца з тымі, хто не даспадобы. Як бачыце, сядзім вось..."

Найбольш верагодны факт узнікнення самастойнай нешматлікай групы на чале з Ф. Каплан і Уладзімірам Рудзіеўскім, які да рэвалюцыі быў памочнікам справавода Маскоўскай Пазыковай казны (казённага ламбарда). З іншых удзельнікаў змовы вядомыя імёны эсэра П. Пялевіна, які адпачываў разам з Ройтблат у Еўпаторыі, і эсэрствуючай жа спявачкі Марусі (прозвішча не высветлена). Неўзабаве на іх гарызонце з'явіўся вядомы авантурыст Рыгор Сямёнаў, каларытна апісаны Віктарам Шклоўскім у яго "Сентиментальным падарожжы".

Менавіта ён забяспечыў групу Рудзіеўскага зброяй і звёў Каплан з Данскім.

Аб самім замаху напісана столькі, што нічога новага тут, бадай, і не скажаш. Найбольш пераканаўчымі ўяўляюцца вывады, зробленыя ў 1989 годзе амерыканскім даследчыкам Сямёнам Ляндрэсам: "Хто б ні рабіў замах на Леніна 30 жніўня 1918 года, немагчыма ідэнтыфікаваць асобу, што рабіла замах, альбо якую-небудзь групу, якая магла стаяць за гэтым актам... Немагчыма таксама вызначыць, ці была Каплан змоўшчыцай, ці выпадкова апынулася ў той вечар на заводзе Міхельсона ў момант замаху... Змоўшчыкі маглі паслаць яе на фабрычны двор... не страляць у Леніна, а ў якасці своеасаблівага "пушачнага мяса", што адводзіла небяспеку арышту ад сапраўдных забойцаў. Выхаваная на рускай рэвалюцыйнай традыцыі, у якой вышэйшым сведкам абавязку і адданасці была гатоўнасць самаахвяравання, Ф. Каплан (падобна многім да яе) "стала не тэрарыстам-забойцам, а ахвярай самой сябе"...

### РЭХА

Сваю прамову на мітынгу 30 жніўня Ленін скончыў энергічнай фразай: "У нас адно выйсце: перамога альбо смерць!" Праз некалькі мінут на заводскім двары прагучалі выстралы.

Задумаемся над галоўным пытаннем, што паўстае перад кожным гісторыкам у сувязі з замахам на Леніна: а ці з'явілася б на свет сумна вядомая пастанова СНК "Аб чырвоным тэроры", калі б не было выстралаў на двары завода Міхельсона? Да гэтага моманту ўжо пралілася кроў Урыцкага. Раней у Петраградзе быў забіты Валадарскі. 28 жніўня 1918 года на пасяджэнні Петрасавета было аб'яўлена аб замаху (які сарваўся) на Зіноўева. Цэнтральныя газеты канца жніўня — пачатку кастрычніка стракацяць паведамленнямі аб усемагчымых змовах. Атмасфера нарастаючай істэрыі ў якасці прэлюдыі да пачатку "якабінскага" перыяду рэвалюцыі — у наяўнасці.

Іншая справа, што ракавыя выстралы ў Леніна і непасрэдныя адносіны да іх жанчыны пра прозвішчу Ройтблат (што ў перакладзе значыць "чырвоная кроў") успрымаюцца як нешта міфічнае. Ніякаму Фрэйду не прыйшло б у галаву такое! Можна, вядома, будаваць версіі аб нейкай містыфікацыі з боку каго б там ні было (чаму б і не з боку булгакаўскага Воланда?), але жыццё больш захапляючае, чым самая неверагодная выдумка...

З лёгкай рукі італьянскай сацыялісткі Анжэлікі Балабанавай была пушчана ў ход версія аб тым, што Каплан не была расстраляна. Балабанава спасылалася на словы Леніна, сказаныя ёй пасля 30 верасня 1918 года (калі яна прыехала са Стакгольма): "Цэнтральны Камітэт вырашыць, што рабіць з гэтай Каплан..." Пазней "вутка" Балабанавай лятала па палітізалятарах і турмах. Многія чулі аб тым, што нехта, маўляў, бачыў Каплан там і там.

Гэтай легендай зацікавіўся аднойчы нават намеснік наркома ўнутраных спраў Фрыноўскі. Адказы з запытаных ім турмаў прыйшлі, зразумела, адмоўныя. Разам з тым, і ў 37-м, і пазней ішло сапраўднае "паляванне на Капланаў". У адной з дэпеш у МДБ СССР дакладвалі: "Выяўлена Каплан Фаня Львоўна з мужам Капланам Уладзімірам Аронавічам і дачкой Каплан Марыянай Уладзіміраўнай. Паведамілі паведамляльнік Ася і крыніца Мышкіна". Хто ведае, колькім людзям каштавала жыцця іх прозвішча. Невядома, праўда, ці трапілі ў сеткі НКУС сапраўдныя сваякі Фейгі Ройтблат. Пытанне цікавае, але рытарычнае.

На сённяшні дзень ёсць тры версіі яе канчыны.

Першая выкладзена ў "Запісках каменданта Маскоўскага Крамля" П. Малькова. Другая выяўлена гісторыкам С. Шуміхіным у адной з запісных кніжак В. Кадашава-Амфітэатрава: "Аказваецца, яна ўвесь час у камеры маўчала, ляжала на ложку, павярнуўшыся носам да сцяны, і не вымаўляла ніводнага слова. Расстрэл яе быў абстаўлены вялікай урачыстасцю: раптам раскрыліся дзверы і на парогу з'явіліся латышы, што цягнулі за сабой кулямёт... На іх вокліч Каплан устала і моўчкі, не гледзячы на жанчын, што сядзелі разам з ёю, захуталася ў вялікі чорны шаль і пайшла следам за латышамі..."

І, нарэшце, трэцяя версія — мемуары аднаго з латышскіх стралкоў: "Я бачыў, як гэта было... Ідзе Паўлік з пісталетам. Побач жанчына, маладая. Чорныя валасы, прыгожая, вочы крыху выпуклыя. Яўрэйкі, калі яны маладыя, вельмі прыгожымі бываюць. Нешта гаварыла, але не ўмаляла, не. Я думаю, яна ведала, куды ён яе вядзе. Малькоў загнаў яе ў вароты, такія нежывыя, нямыя вароты былі, яны толькі з аднаго боку выглядалі, як вароты. Спецыяльнага месца для расстрэлу ў Крамлі не было. Ён выстраліў разы два... Я думаю, Малькоў расстраляў яе сам, без суда, а дакументы потым аформіў. Ён яе атрымаў, павінен быў, мусіць, завезці некуды, а замест гэтага расстраляў... Было гэта, каб не схлусіць, летам. Пасля абеду..."

Так (ці амаль так) абарвалася зямное жыццё той, якая ўвайшла ў гісторыю пад імем "чырвоная кроў".

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

УШАНОЎВАЮЧЫ ЯНКУ МАЎРА

# ЛЮБІМЫ ДЗІЦЯЧЫ ПІСЬМЕННІК

Янка Маўр — вялікі нацыянальны беларускі дзіцячы пісьменнік. Ён у нашай літаратуры тое, што Майн Рыд і Фенімор Купер у амерыканскай, Жуль Верн у французскай літаратурах. Пісьменнік узняў беларускую дзіцячую літаратуру на высокі сусветны ўзровень. Яго прыгодніцкая і фантастычная проза выхоўвала і захапляла не адно пакаленне беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак.

У музеі Якуба Коласа нядаўна прайшла вечарына, прысвечаная 115-м угодкам Янкі Маўра. Ва ўтульным Коласавым доме сабраліся прыхільнікі і даследчыкі творчасці Маўра, шматлікія госці. Вельмі прыемна, што на гэтай вечарыне прысутнічалі і чыталі творы вялікага пісьменніка і навучэнцы Мінскага педагагічнага каледжа. Увогуле, дружба супрацоўнікаў коласаўскага музея і навучэнцаў каледжа моцная і даўняя. Мы не ўпускаем моманту, каб не пабыць тут на экскурсіі, не наведаць выставы і мерапрыемствы, што праводзяцца ў музеі.

Адкрыў і вёў вечарыну старшы навуковы супрацоўнік, вядомы паэт-гумарыст Іван Курбека. Дасціпна і цікава ва ўступным слове гаварыў ён пра ролю Янкі Маўра ў гісторыі беларускай літаратуры, пра пісьменніка як чалавека, а потым даў слова вядомай даследчыцы дзіцячай літаратуры і спадчыны Маўра Маргарыце Яфімавай. Грунтоўна, хораша і цёпла казала яна пра сустрэчы са славутым пісьменнікам, пра асаблівасці яго творчай манеры, нацыянальны характар яго прозы.

Асаблівa цікава было паслухаць прысутным выступленні родных і блізкіх Янкі Маўра: яго дачкі Наталлі, зяця Міхася Міцкевіча, унучкі Людмілы Арсенневіч.

Прысутныя даведаліся пра сваяцтва сем'яў Коласа і Маўра — сын Якуба Коласа Міхась жанаты на дачцэ Янкі Маўра Наталлі.

Выступленні вучоных і ўспаміны родных перамяжоўваліся чытаннем урыўкаў з Маўравых твораў. Народны артыст рэспублікі Павел Дубашынскі па-майстэрску прачытаў урыўкі з аповесці "Сын вады". Вучань сярэдняй школы № 26 Міхась Мішкевіч чытаў урывак з аповесці "Шлях з цемры". А навучэнкі Мінскага педагагічнага каледжа Кудрысцёнак Таня і Мінец Алена пазнаёмілі з фрагментам "Палескія рабінзонаў" і апавяданнем "Шчасце".

Затаіўшы дыханне слухалі ўсе "магнітафонны" голас самога Янкі Маўра (запіс 1966 года) і яго сына акадэміка Фёдара Фёдарава (запіс 1972 года). Гучала класічная музыка ў выкананні праўнучкі Маўра Васіліны — лаўрэата конкурсу піяністаў 1997 года ў Пецярбургу.

Усіх захапіў сваім майстэрствам Іван Курбека, які таленавіта прамаўляў голасам Маўра, умела падрабляў жэсты, міміку вялікага пісьменніка.

Цікавым і змястоўным было выступленне доктара філалагічных навук Васіля Жураўлёва пра асаблівасці творчай манеры Маўра. А пад заслону сустрэчы ўсіх парадавалі сваім талентам заслужаная артыстка Беларусі Вольга Шутава і ансамбль "Менскі гармонік" у асобах яго кіраўніка Івана Раманчука і салісткі Алы Гоман. Іх майстэрскае выкананне нікога не пакінула абыякавым.



Памяць пра вялікага пісьменніка-гуманіста належным чынам увекавечана ў Мінску: ёсць вуліца Маўра, музей у сярэдняй школе № 126, яго імем названа бібліятэка, выдадзены Збор твораў у 4-х тамах. Ці не варта паруупіцца, каб у Мінску быў адкрыты помнік любімаму дзіцячаму пісьменніку?

**Святлана ХАЦЬКО,**
**навучэнка 204 групы Мінскага педагагічнага каледжа.**

**НА ЗДЫМКУ: Якуб КОЛАС і Янка МАЎР з унукам. 1950 год.**

УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!

# ЛІЧЫЛА ДНІ ЗЯЗЮЛЯ...

...І як жа рана стамілася яна іх лічыць. Як непапраўна рана...

...Рыгор Семашкевіч пражыў няпоўных 37 год. За такі нядоўгі век паспеў зрабіць нямала розных, добрай работы... Вершы пачаў пісаць і друкаваць з пятнаццаці гадоў. Спачатку "паблізу ад дому" — у "раёнцы" друкаваўся. А пасля, калі паступіў і стаў студэнтам філфака універсітэта, з'явіліся яго імя і ў сталічным ужо друку: "ЛіМ", "Маладосць".

Вершы былі не выпадковай стыхіяй юнака. Ён нарадзіўся на прыгожай паэтычнай зямлі Маладзечаншчыны (в. Дамашы). Тады яшчэ вольна мералі яе лугі і сенажаці — над імклівай Віліяй — белакрылыя буслы ў чырвоных ботах. Абзвоньвалі зранку да вечара паддахі і застрэхі хат і гумнаў стараннiцы-ластаўкі. І збажына ў полі — жыты і аўсы — у пояс кланялася чалавечым рукам...

...Пасля заканчэння універсітэта малады літаратар атрымаў накіраванне на працу ў Смаргонскі раён. У маляўнічую прыгожую вёску Малінавая (колькі існавала, раней яна мела назву "Свінкі"... Але "за Саветамі", калі мяняўся "дагары нагамі" ўвесь свет — і ёй далі новую назву: Малінавая. Так яно гучала і сапраўды прыгажэй). У раённым аддзеле народнай адукацыі прызначылі яму пасаду дырэктара тамтэйшай васьмігодкі... А пасля зноў была навука — у аспірантуры пры БДУ на кафедры беларускай літаратуры... Была абаронена кандыдацкая дысертацыя... І на гэты раз ён застаўся ўжо на гады ў сценах роднай Alma mater — кандыдат філалагічных навук, дацэнт — выкладаць беларускую літаратуру ўжо сваім студэнтам.

...За самай першай паэтычнай "Лесвічоўкай" (1968) паступова зладавалася і больш сталая ўжо лірычная "Субота" (1973).

**Яснеюць у душы дагэтуль**
**І бэз, і нашая зара,**
**І ранг прыдворнага паэта —**
**Твайго, каханая, двара.**

Не давала спакою і проза. У прыгожай Малінавай нарадзіліся першыя празаічныя старонкі — "Лічыла дні зязюля" (1966—1967).

Захоплена-негаваркі і як быццам нешматслоўны, паэт меў здольнасць яшчэ і заўважаць і, як ніхто іншы, дасціпна, а часам і саркастычна пасмяяцца з нікчэмнай у нашым побыце людской мітусні і тузаніны. Такою з'явілася аповесць "Бацька ў калаўроце" (1976).

Кандыдат філалагічных навук і навуковец-даследчык, Рыгор Семашкевіч паспеў стаць аўтарам такіх грунтоўных літаратуразнаўчых прац і эсэ, як "Браніслаў Эпімах-Шыпіла" (1968), "Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе" (1971), "Світка Буйніцкага" (1974—1975), "Ясень" (1980), "Выпрабаванне любоўю" (эсэ, артыкулы, 1982)...

...Дванаццаць апошніх год аддаў ён сваёй Alma mater — Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту, які выбраў і канчаў сам і выбрала і канчала яго жонка Наташа. Яго паплечніца. Ва ўсім яго памочніца і адданая сяброўка.

...Стаялі маёва-летнія дні чэрвеня. Не стомленая яшчэ летняй спёкай зеляніна паласкала гарадскія паркі. Ішлі экзамены ў студэнтаў...

...Пасля вячэры ён падрыхтаваў сябе да заўтрашняга экзамена на сваім курсе. Падрыхтаваў, як заўсёды патрабавальна-крытычна: каб усё было як мае быць!..

Нешта збіраўся прабегчы вачыма яшчэ — па экзаменацыйнай праграме. Падышоў да расчыненага акна. З асалодай закурыў.

...У суседнім пакоі даўно ўжо спалі Наташа з Данай-дачушкай.

Відаць, дзіцяці нешта добрае прыснілася, і яно засмяялася скрозь сон — голасна і залівіста... І ён засмяяўся... І зазірнуў у пакой, дзе яны спалі — жонка і дачушка.

У іх акно таксама было расчынена, і ён прыкрыў дачушку лёгкай коўдрачкай, якую яна збіла нагамі і ляжала раскрытая.

— Спіце, спіце... Мае дзяўчаткі! — пяшчотна прамовіў ён і вярнуўся ў свой пакой да свайго расчыненага акна...

Што здарылася потым — ніхто не ведае.

Рыгор Семашкевіч пражыў няпоўных 37 гадоў.

Сябры да месца яго вечнага спачыну на Паўночных могілках прывезлі яму з маладзечанскай роднай зямлі мудры камень-валун.

Каб моўчкі гаманілі яны ўдвух...

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

ДЗЕЦІ СПЯВАЮЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

# РОЗДУМ ПАСЛЯ ФЭСТУ

Сёлетняя вясна падаравала нашай сталіцы цэлы шэраг святаў мастацтва, сярод якіх не згубіўся, а, як мне здаецца, наадварот, вылучыўся першы рэспубліканскі дзіцячы фестываль эстраднай песні "Спяваем з аркестрам". Цягам двух вечароў гаспадарамі філарманічнай сцэны былі таленавітыя дзеці, якім натхнёна акампаніраваў вядомы дзяржаўны аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга і нястомна падпяваў хор "Фэст" 201-й мінскай СШ (дырыжор — Элеанора Старажук).

Адметны штрых: усе песні ў іх выкананні гучалі па-беларуску. Гэта прынцыповая ўмова фестывалю і цудоўны прыклад для пераймання ў драматычнай нашай моўнай сітуацыі, калі забыты Закон аб мовах і калі на Беларусь вярнуўся працэс інтэнсіўнай і экстэнсіўнай русіфікацыі.

На фестывалі выступалі дзеці пераважна малодшага школьнага ўзросту. Да прыкладу, Насці Жук (г. Маладзечна) усяго восем гадоў, Роме Івашчанку (г. Смаргонь) — дзевяць. Але на сцэне абое трымаліся даволі ўпэўнена. Дарэчы, імі апякуецца кампазітарка Алена Атрашкевіч. Не дзіва, што і песні выконвалі яе — "Жураўліную чараду" і "Мама — наша сонца". Насці дасталася няпростая ў вакальным плане песня, затое зместам ў ёй празрысты: дзяўчынка размаўляе з жураўлямі.

**— Жураўлі, жураўчкі,**
**птахі мае шчырыя,**
**што вы чулі, бачылі**
**у далёкім выраі!**
**— Мы радзіму бачылі**
**у блакітных снах**
**і здалёк пачулі мы:**
**кліча нас вясна.**

Пачуццё радасці ад вяртання на радзіму падмацоўваецца прыпевам, дзе ёсць такія словы: "Блізка гнёзды родныя, цёхая вада". Алена Атрашкевіч імкнецца да таго, каб яе вучні-выканаўцы думалі ў песнях, добра асэнсоўвалі выбучанае і даносілі вобразы паэзіі і музыкі да сэрцаў слухачоў. І гэта, як паказаў фестываль, ёй удаецца.

Цешыць, што на свяце дзіцячай эстраднай песні дамінавалі мілагучная музыка, змястоўная і праніклівая паэзія. Эмацыянальна праспявала беларускую народную песню "Ой долам, долам..." Валерыя Валадзько (г. Мінск). Захапленне таямнічай незямной красою адчувалася ў выкананні "Зорнай начы" Надзеяй Хадкевіч (г. Орша). Некаторым юным выканаўцам падышлі песні, так бы мовіць, навырост. Алена Ладнова (г. Лепель) сваім спевам яскрава перадала карціну завірухі, што з'яўляецца зместам вядомай песні "Завіруха" Г. Бураўкіна і Э. Ханка. Цёпла былі прыняты залаю "Азёры дабрыні" У. Карызны-старэйшага і Л. Захлеўнага ў выкананні Алены Драган (г. Нароўля), "Белая Русь" Л. Пранчака і В. Раінчыка ды іншых. Хоць, вядома, дарослая песня ў вуснах дзіцяці — справа рызыкоўная.

Удалая эстрадная песня — з'ява рэдкасная. Дый вельмі нямнога кампазітараў у нас пішуць творы для дзяцей. Ці не таму журы высока ацаніла выкананне Арсенем Чарнамашанцавым (г. Баранавічы) песні "Не жартуй", якую ён стварыў разам з бацькам, даволі тонка ўлічыўшы свае вакальныя магчымасці. І ўсё ж гэты факт наводзіць на думку, што ў краіне існуе праблема стымулявання прафесійных паэтаў і кампазітараў, каб яны больш актыўна стваралі песні для дзяцей.

Цяпер многіх слухачоў не хвалюе праблема эстэтычнага і маральнага ўзроўню песенных праграм. Але ж іх трэба выхоўваць на ўзорах музычна-спеўнага мастацтва. Заззначу, што дужа прыемна было пачуць з вуснаў удзельнікаў гурта "Вясёлка" (г. Магілёў), што таксама выступілі паспяхова, такія словы вядомай песні:

**Сорам, дзеўка, сорам, красна,**
**Позна ўвечары гуляць.**

Такая чысціня ў сучасным жыцці рэдка крынічыць на эстрадных пляцоўках краіны!

Заўважу: усе песні на фестывалі прагучалі ў цудоўнай аранжыроўцы кампазітара, скрыпача і гітарыста Уладзіміра Ткачэнкі.

Цяпер удзельнікі першага ўсебеларускага дзіцячага фестывалю эстраднай песні рыхтуюцца да выступленняў улетку ў Маладзечне, на прэстыжным нацыянальным фестывалі беларускай паэзіі і песні. Гэтая падзея найперш хвалюе энтузіястаў. Дакладна вядома, што Алена Атрашкевіч піша новыя песні для дзяцей. Ёсць у яе цікавая задумка — стварыць добрую песню, якую маглі б выконваць дуэтам Насця Жук і Рома Івашчанка, што добра зарэкамендавалі сябе ў сталіцы. Пажадаем жа ёй і ўсім творцам, што дбаюць пра таленавітых дзяцей, вялікіх поспехаў!

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

СПАДЧЫНА



**Любяць бавіць свой вольны час жыхары вёскі Старыя Дарогі ў "Хаце-майстэрні", якая дзейнічае пры Старадарожскім сельскім Доме культуры. Будавалі яе ўсёй вёскай.**

**Кіраўнік майстэрні Людміла Клюбко і метадыст па народнай творчасці Валянціна Спадар зматлі зацікавіць і дзяцей, і дарослых народнай творчасцю. Тут кожны знаходзіць сабе занятак па душы: вышываюць, вяжуць, плятуць макрамэ, спяваюць.**

**НА ЗДЫМКУ: у "Хаце-майстэрні" заўсёды мнагалюдна.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

# «НАС КАВАЛІ Ў ПЛАМЕННІ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

партрэтны жывапіс. Сярод карцін гэтага жанру вылучаецца серыя партрэтаў дзеячаў гісторыі і культуры Беларусі. Магчыма, штуршком да гэтай апантанай працы быў поспех, што напаткаў мастака напачатку, у 1973 годзе, калі ён напісаў свой першы партрэт "Бабка Марыля", які быў набыты Беларускім дзяржаўным мастацкім музеем. Яго адразу заўважыла крытыка. Гэта надало мастаку творчага імпэту, які ён бліскуча рэалізаваў у партрэце Цёткі "Нас кавалі ў пламенні..." Затым мастак звярнуўся да постаці Францішка Скарыны. Аляксею Марачкіну ўдалося стварыць велічны вобраз славутага земляка, пры ўвасабленні якога ён удала, як і ў папярэднім партрэце, выкарыстаў кантрастную гаму цёмна-зялёных і вохрыстых светлых фарбаў. Гэты мастакоўскі прыём у спалучэнні са шматслойным пісьмом мастэра прымяняе і ў шэрагу наступных палотнаў. Самы вялікі набытак у партрэце прынеслі мастаку 80-я гады. З-пад ягонага цвёрдага пэндзля выходзяць такія манументальныя творы, як "Вітаўт Вялікі", "Мікола Гусоўскі", "Іван Луцкевіч", "Вераніка і Максім", "Рагнеда", "Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч", "Кастусь Каліноўскі", "Ефрасіння Полацкая", "Сімяон Полацкі", "Кірыла Тураўскі", "Размова аб вечнасці. Скарына і Парацэльс", "І кветкі, і хлеб — паэтам. Янка Купала і Якуб Колас" і іншыя. Усе партрэты Марачкіна — кампазіцыйныя. Яны дакладна перадаюць час, эпоху, у якую жылі і тварылі славутыя людзі зямлі беларускай, дзякуючы шырокаму выкарыстанню ў сваіх палотнах знакавасці і ўмоўнасці. У партрэтным жанры мастак звяртаецца і да сваіх сучаснікаў. Дазволім сабе згадаць тут такія творы, як "Пётра Сергіевіч", "Мікола Ермаловіч", "Зянон", "Зніч", "Аляксандр", "Леанід Барткевіч". Адзін з апошніх партрэтаў, напісаны да 80-годдзя БНР — "Ваша Ларыса Геніюш" можна было ўбачыць на выставе "Адраджэнне-98" у сутарэннях Чырвонага касцёла Святых Сымона і Алены.



Аляксей Марачкін плённа працуе і ў іншых жанрах — пейзаж, нацюрморт, тэматычная карціна. Ён імгненна адгукаецца на падзеі, якія выпадаюць у жыцці на нашу долю. Ёсць у яго цыкл твораў, прысвечаных чарнобыльскай трагедыі. Трагедыі, якая закранула літаральна кожнага жыхара Беларусі. Найбольш радыяцыйнага бруду абрынулася на родную Чэрыкаўшчыну, дзе нарадзіўся мастак. У самае пекла пры ліквідацыі наступстваў аварыі трапіў сын Ігар, на той год — салдат Савецкай Арміі. У сваіх палотнах на чарнобыльскую тэматыку мастак прыбягае да сюррэалістычнай метафары, з дапамогай якой у творах "Планета "Палын"", "Палеская мадонна", "Хадора" паказвае твар і наступствы гэтай трагедыі.

Але чалавек жыве надзеяй. І гэтае свята надзеі А. Марачкін падае нам, звяртаючыся да вобраза Божай Маці. Напярэдадні чацвёртых угодкаў чарнобыльскага выбуху ён ахвярна працуе над абразом "Маці Божая ахвяраў Чарнобыля". Гэты абраз, асвячоны ў 1990-м годзе на плошчы Свабоды ў Мінску, мастак ахвяраваў царкве ў Жодзіне. Тут дарэчы згадаць пра інтуіцыю творцы. Задоўга да выбуху на ЧАЭС, у 1975 годзе, ён стварыў карціну "Касмічная пачвара над маёй вёскай", у якой пануе прадчуванне небяспекі, што навісла над ягонымі роднымі краявідамі. Небяспекі, якую тоіць у сабе навукова-тэхнічны прагрэс.

У сваёй творчасці мастак звяртаецца да беларускай міфалогіі, якой прысвячае серыю карцін "Легенды і паданні Беларусі", стварае творы на тэму народных традыцый, святаў і абрадаў. З ягонага фальклорнага цыкла варта згадаць "Гуканне вясны", "У капядную ноч", "Чароўныя арэлі", "Купальскім ранкам", "Купальскія чары" і іншыя.

Адметнай старонкай творчасці Марачкіна з'яўляецца серыя маляваных дываноў. Можна з упэўненасцю сказаць, што на стварэнне гэтай серыі мастака натхніла багатая спадчына народных маляванак, якія шырока выкарыстоўваліся ў сялянскіх хатах у 50-я гады. Яшчэ большае ўражанне на яго зрабілі дываны Язэпа Драздовіча, якія ён сабраў падчас вандровак па сцежках мастака. Так на палатне, пафарбаваным на чорнае, пачалі з'яўляцца маляваныя дываны Марачкіна. Першы — "Два львы" — выкананы ў лепшых традыцыях народных майстроў. Назвы іншых яскрава сведчаць пра тое, што ствараліся яны з думкай пра лёс беларускага народа, яго гісторыю і сённяшні дзень: "Страцім-лебедзь", "Пагоня", "Францыск Скарына", "Ефрасіння Полацкая", "Паўлюк Багрым", "Бацькоўская хата", "Роздум пра Дзісеншчыну".

Мастак знаходзіцца ў пастаянным пошуку, у пастаянным развіцці. Ён шукае іншыя шляхі для самавыяўлення, смела эксперыментуе. Напрыканцы 80-х ягоная палітра становіцца ўсё больш светлай, а побач з фігуратыўнымі творамі з'яўляюцца творы авангарднага характару на мяжы абстракцыі і канцэптуалізму. Яны шырока былі паказаны на персанальнай выставе ў 1992 годзе, якая адбылася ў Дзяржаўным мастацкім музеі. Тут аматары творчасці Марачкіна ўпершыню ўбачылі ягоныя разняволеныя працы, праз якія сюжэтнай лініяй праходзіць тэма зімы. Снег. Белы і ў той жа час шматколерны цуд ператварае нашы прасторы ў казку. І гэтая зімовая казка мастака Марачкіна ў карцінах — "Зімовыя прывіды", "Настальгія па беламу снегу", "Плот", "Нябесныя знакі", "Зімовы анёл". З нагоды пераменаў у творчасці мастака Пётра Васілеўскі зазначыў: "Доўгія гады ён стрымліваў у сабе авангардысцкія памкненні, падпарадкоўваючы іх сваёй экспрэсіўнай па духу іканаграфіі асветніцтва. Выхад эксперыментатарскай энергіі быў у шырыні тэматычнага і тэхнічнага ахопу: ад гістарычных партрэтаў да дэкаратыўнага маляванага дывана. Цяпер ён можа дазволіць сабе паказацца без "рыцарскіх латаў". І мадэрновы нацюрморт, і жаночы акт не меней патрэбныя ў творчасці".

Пацвярджэннем гэтых слоў і ёсць згаданая напачатку выстава ў галерэі "Мастацтва". Усе паказаныя тут карціны пабаўлены "літаратуршчыны". Гэта творы высокага асацыятыўна-метафарычнага гучання, выкананыя ў светлай каляровай гаме. Мастак уздымае планку свайго майстэрства на большую вышыню і тым самым спадзяецца на падвышэнне эстэтычнага густу гледача. Экспазіцыя распачынаецца рамантычным палатном "Зімовыя мроі". Мроі, навеяныя ўспамінамі дзяцінства: фантастычная і разам з тым нейкая вельмі звычайная птушка на доўгіх нагах-хадулях, хлопчык-летуценнік, што нібыта зачапіўся за аблокі, і — заснежаная бязмежжа. Прастора... Воля... Чысціня... Стрыманая манахромная гама. Уражаны і натхнёны гэтым хараством, паэт Уладзімір Някляеў напісаў аднайменны верш, які друкаваўся ў "ЛіМе". Зімовую тэму на





выставе працягваюць незвычайныя па сваёй падачы творы — "Снегавік", "Вакно ў зіму". Гэта вертыкальныя доўгія палотны — каля 150 сантыметраў, якія, як шпалеры, свабодна звісаюць на сценах галерэі, падкрэсліваючы яе сучасны еўрапейскі інтэр'ер. Яны не маюць ні рам, ні падрамнікаў. Льняная тканіна, лёгка пафарбаваная па краях, гарманічна ўваходзіць у кампазіцыйны пластычны лад усяго палатна. У гэтай манеры зроблены іншыя творы — "Страла", "Знак", "Вакно", "Клетка", "Планета "М"", "Купальскія мроі", "Без назвы". І зноў — асацыяцыі, успаміны дзяцінства, калі чалавек найбольш поўна адчувае гармонію з навакольным светам. Праз вакно пустой клеткі мы ловім трывожны і самотны позірк хлопчыка, які нібы прадчувае, што гэтая клетка, малая ці вялікая, чакае і яго. Няма ў жыцці поўнай свабоды. Толькі птушка над клеткай — свабодная, вызваленая ад путаў няволі. Наступныя два творы — "Акт", "Без назвы" — гімн жаночай прыгажосці. На палотнах, экспрэсіўна расквечаных фарбамі, не заўважаеш плоці. Яна, нібы квяцісты луг, запаўняе ўсё палатно зверху данізу. Здаецца, што ёй цесна ў гэтым фармаце, і такое адчуванне, што ўся постаць з высока паднятымі ўгору рукамі нібы імкнецца вырвацца з гэтага фармату, як тая птушка. Не выпадкова гэтыя карціны — "Клетка" і "Акт" — у экспазіцыі знаходзяцца побач. Гэтая ж тэма мае працяг у "Купальскіх мроях", а таксама ў акварэлях. Сваю планету, поўную гармоніі, дзе так вольна і прасторна, мастак стварае ў карціне "Планета "М"". Яна вытрымана ў мяккіх зеленавата-охрыстых фарбах. Ва ўсіх творах адчуваецца цяга мастака да сіметрычна-цэнтрычнай кампазіцыі, якая надае ўстойлівасць і раўнавагу.

Сённяшні Марачкін вызваліўся ад путаў той формы, якую засвоіў ад акадэмічнага рэалізму, што само па сабе ў тыя часы давала яму магчымасць ствараць фігуратыўныя кампазіцыі на нацыянальна-гістарычную тэматыку. Зараз, апынуўшыся ў стыхіі еўрапейскага мастацтва, пабачыўшы свет і паказаўшы сябе, ён вызваляе ў сабе энергію эксперыментатарства і дазваляе рызыкоўныя пошукі ў фарматворчасці, экспрэсіўнасці колеру, а таксама — нечаканых кампазіцыйных рашэнні. Сам мастак так ацэньвае гэтыя пошукі і сённяшнюю сітуацыю ў сучасным мастацтве: "На гэтым шляху, магчыма, больш стратаў, чым набыткаў. Але гэта ёсць натуральны шлях творцы, які не хоча спыніцца ў сваім руху, бо стаяць на месцы ў мастацтве — гэта нават не ісці назад, а прыгнятаць у сабе творчую асобу. Безумоўна, сённяшняе так званае камерцыйнае мастацтва адчувае на сабе дыктат з боку спажыўца, які мае грошы, але ў якога нестае дасканалага эстэтычнага густу. І часцяком бывае, што твор мае хутчэй таварную каштоўнасць, чым духоўную. Ён становіцца прыкладным да таго ці іншага інтэр'ера. І пры чарговай змене моды на дызайн мэблі і інтэр'ера мастацкі твор рызыкуе быць высцененым новай эстэтыкай. Таму сучаснае мастацтва заўсёды балансуе паміж кан'юнктурай рынку і самакаштоўнасцю".

І ўсё ж, пры ўсёй шырыні свайго творчага дыяпазону Аляксей Марачкін застаецца мастаком глыбока нацыянальным. І яго пластычна-каляровыя формаўтварэнні маюць сваю адметнасць і адрасацыю.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: працы А. МАРАЧКІНА: "Акт"; "Купальскія мроі"; "Клетка".**

СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ МУЗЕЯЎ

# УГЛЕДЗЕЦЬ У ПАПЕРЦЫ ДАКУМЕНТ ЭПОХІ

Сярод прафесійных і ведамасных святаў Міжнародны дзень музеяў вылучаецца сваёй адметнасцю. Бо менавіта з музеяў для многіх прыходзіць усведамленне багацця і гісторыі, і культуры, і спадчыны народа. Нездарма ў многіх краінах свету, якія атрымлівалі незалежнасць, поруч з дзяржаўнымі сімваламі (гербам, сцягам і гімнам) паўставалі нацыянальныя музеі, бібліятэкі. Гэтак было ў Ізраілі, Польшчы, Літве ды іншых дзяржавах.

І ў Беларусі музеі застаюцца сёння астраўкамі нацыянальнай культуры, выяўляюць яе повязь з сусветнай спадчынай. Ладзяцца выставы ў Дзяржаўным мастацкім музеі, музеі гісторыі, у літаратурных музеях праходзяць сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй, ладзяцца канцэрты і нават спектаклі.

Святочная імпрэза з нагоды свята прайшла ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Сабраліся не толькі супрацоўнікі Дома Купалы, але і частыя наведвальнікі — студэнты і вучні мінскіх школ.

Вядомы навуковец Алег Трусаў расказаў прысутным пра гісторыю музеяў у былой Расійскай імперыі, пазнаёміў з першымі прыватнымі і дзяржаўнымі калекцыямі сярэднявечнай Беларусі, што сталі асновай першых музеяў.

Так, род Радзівілаў адметны і тут. Менавіта яны ў Нясвіжы стварылі першы музей. Потым з'явіліся прадаўжальнікі — як прыватныя асобы, так і дзяржаўныя ўстановы. Прычым, з'яўляліся тэматычныя калекцыі. Адметна тое, што ўсе экспанаты былі альбо з тэрыторыі Беларусі, альбо атрыманы нашымі продкамі ў якасці падарунка, выменены. Гэта адрозніваe ад так званых каланіяльных экспазіцый, дзе экспанаты — ваенныя трафеі, нарабаваныя каштоўнасці. Зрэшты, з Беларусі многія творы мастацтва і гістарычныя дакументы трапілі ў музеі свету (у Польшчу, Літву, Расію, Германію і г. д.), у большасці падчас ваенных дзеянняў як "каланіяльныя".

Бадай, першым беларускім паводле духу быў музей Луцкевіча ў Вільні (пачатак XX стагоддзя). На жаль, ён праіснаваў нядоўга.

За апошнія паўстагоддзя з'явілася шмат самых розных па тэматыцы і зместу музеяў — пачынаючы ад вялікіх дзяржаўных да раённых, школьных краязнаўчых, а таксама — прыватных.

— Доўгі час нашы музейшчыкі былі самавукамі ў гэтай галіне, — зазначыў А. Трусаў. — Не маючы спецыяльнай адукацыі (у лепшым выпадку — філалогія ці гісторыя), усё спасцігалі з кніг і паўсядзённай працы ў музеі. Цяпер жа мы маем магчымасць даваць адукацыю спецыяльную, выхоўваць прафесійных музейшчыкаў.

Пра сумяшчэнне, здавалася б, несумяшчальнага — творчасці і музейных экспазіцый — расказаў вучоны сакратар музея Янкі Купалы, пісьменнік Сяргей Панізьнік.

— Пройдзе час, і амаль любая паперка становіцца гісторыяй, — сказаў прамоўца, звяртаючыся да маладых слухачоў. — Менавіта з плана хутара маіх бацькоў я даведаўся і імёны сваіх дзядоў, і імёны суседзяў, і іншыя цікавыя звесткі. А з часам пачаў збіраць мэтанакіравана прадметы побыту, дакументы, кнігі. Цяпер маю свой невялікі музей на Друсеншчыне, у вёсцы Цінкаўцы. Называецца ён "Хатка бабкі Парасі", стаіць на шляху "з варагаў у грэкі". А ў планах — стварыць музей аднаго з заходнебеларускіх мястэчкаў. Гэта Лявонпаль, што на Мёршчыне. Бачыце, як важна ў адной толькі паперцы ўгледзець яе каштоўнасць.

Гэткую ж каштоўнасць пабачылі ўсе, хто прысутнічаў на вечарыне, калі трапілі на выставу кніг і здымкаў з дароўнымі надпісамі Янкі Купалы, што наладзіў Купалаў дом, а таксама — экспазіцыю да юбілею п'есы "Паўлінка".

**Уладзімір ПУЧЫНСКІ-ПІРОГ.**

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАРК «БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА»






Мы паведамлялі ўжо, што восенню мінулага года Савет Еўропы прысудзіў нацыянальнаму парку "Белавежская пушча" Еўрапейскі дыплом.

Белавежская пушча — адзін з найстарэйшых і унікальных прыродаахоўных аб'ектаў не толькі Беларусі, але і Еўропы. Пушча занесена ў спіс сусветнай прыроднай і культурнай спадчыны з прысуджэннем ёй статуса біясфернага запаведніка.

Аб неацэннай унікальнасці запаведных лясоў Белавежскай пушчы сведчыць і той факт, што Глабальным экалагічным фондам быў выдзелены грант і пры садзейнічанні і фінансаванні Сусветнага банка рэалізаваны праект "Захаванне біялагічнай разнастайнасці лясоў Белавежскай пушчы".

Супрацоўнікі нацыянальнага парку "Белавежская пушча" разам з навуковымі даследаваннямі праводзяць планамерную работу і па ўкараненню экалагабяспечных і энергазберагаючых тэхналогій ва ўсіх сферах дзейнасці.

Нядаўна прадстаўнік Савета Еўропы Жан Марк Мішэль ва ўрачыстай абстаноўцы ўручыў кіраўніцтву Белавежскай пушчы дыплом Савета Еўропы.

НА ЗДЫМКАХ: уезд у нацыянальны парк "Белавежская пушча"; дырэктары запаведніка ў розныя гады М. КАВАЛЬКОЎ, С. КАГАНОЎСКІ, С. БАЛЮК, В. РАМАНОЎСКІ і В. РАМАНАЎ гутараць з цяперашнім генеральным дырэктарам В. ЖУКАВЫМ.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

Мікола АЛТУХОЎ

### РАЗВЕДЧЫКІ

Пасвятлелі бярозкі,
І крынічка пяе,
Што пралескі пялёсткі
Раскрываюць свае.

Кветкі звонкаю ночкай
Прараслі, расцвілі,
Нібы сінія вочкі,
Вочы веснай зямлі.

Лес шуміць, летуценнік,
Дачакаўся вясны,
І глядзяць са здзіўленнем
На паляны яны.

Лес даверыў дазнацца
Ім на золку, відаць:
Час усім прачынацца!
Час усім расцвітаць!

### ЗОРКІ

Кветкі маці-і-мачахі
Ззяюць у гушчары,
Быццам сонечных зайчыкаў
Назбіралі бары.

І святлом іх азораны
Лес, паўнюткі вады.
Нібыта мэтэорамі,
Што зляталі сюды.

### ЧАРОМХА

Стаяць бярозы нерухома
На ціхім беразе ракі,
А ў вір насыпала чаромха
Пялёсткі, нібыта сняжкі.

Цвіце чаромха над балотам,
Бялее, поўная святла,
Нібыта новыя сумёты
Вясна для смеху намяла.

Як у сняжынках, ходзяць хвалі,
А на вярбе шчыгол пяе:
Зіму, ці што, пашкадавалі!
Што, хочацца вярнуць яе!

Генадзь АЎЛАСЕНКА

* * *

Адыходзіць вясна ў небыццё
пад птушыныя спевы
напеўныя...
Мы не стрэнемся болей
напэўна...
Мы не стрэнемся...
Гэта жыццё...

Нашы стрэчы — кароткія
сны —
прамільгнулі, як казка
чароўная...
Адквітнелі галінкай
чаромхавай
у пяшчотных
далонях вясны...

Мы не стрэнемся болей нідзе...
Нашы стрэчы — кругі
па вадзе...
З пахам ліпавым лета ідзе...

Мы не стрэнемся
болей нідзе...

## ЧЫЯ КАСА ДАЎЖЭЙШАЯ?



**На нядаўнім рэспубліканскім фестывалі "Арт-Галерея-98" у Гомелі высветлілася, што самая доўгая каса ў Беларусі належыць інжынеру "Брэстдарпраекта" Але БОКАРАВАЙ: даўжыня яе 1 метр 65 сантыметраў, што, вядома, не мяжа, лічыць гаспадыня.**

**Уладальніцы самай доўгай касы на фестывалі быў уручаны дыплом першай ступені.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

## НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

# ПРЫСВЕЧАНЫ БЕЛАРУСКІМ АЎТАМАБІЛЯМ

23 красавіка беларуская пошта ўвяла ў абарачэнне новую серыю марак. Усе пяць мініяцюр гэтай серыі прысвечаны прадукцыі Мінскага аўтамабільнага завода. Кожная марка адлюстроўвае пэўны этап станаўлення завода, этапы беларускага аўтамабілебудавання. На марках паказаны аўтасамазвалы — МАЗ-205, МАЗ-5549, МАЗ-5516, МАЗ-503Б, МАЗ-5551. Яны вядомыя далёка за межамі нашай рэспублікі. Ні адна будоўля ў былых рэспубліках Саюза не абыходзілася без самазвальных аўтамабіляў Мінскага аўтазавода. Першыя МАЗы, што выйшлі з варот завода ў 1947 годзе, абвясцілі аб нараджэнні беларускага аўтамабілебудавання. Сёння МАЗ — гэта адзін з вядучых вытворцаў вялікагрузнай аўтамабільнай тэхнікі нашай рэспублікі. Варта сказаць, што першая марка з адлюстраваннем МАЗа была выдадзена ў 1957 годзе. На ёй быў паказаны 25-тонны кар'ерны самазвал МАЗ-530. Тады ж было выдадзена некалькі канвертаў з адлюстраваннем гэтага аўтамабіля. Адзін з канвертаў, выпушчаны да 900-годдзя Мінска, на сваім малюнку мае адлюстраванне аўтамабіля МАЗ-500 на фоне горада, які будуецца. Мінскі аўтазавод пачаў выпуск аўтамабіляў з асваення канструкцый аўтамашын Яраслаўскага завода, але ўжо к 1951 году былі створаны свае арыгінальныя мадэлі МАЗ-503 і МАЗ-500. Вось яны і паказаны на паштовых канвертах 1970 года.







Да 40-годдзя Мінскага аўтазавода быў выдадзены мастацкі канверт з адлюстраваннем магістральнага аўтапоезда МАЗ-6422-9389. Новая серыя, выдадзеная рэспубліканскім дзяржаўным аб'яднаннем "Белпошта" і выдавецкім цэнтрам "Марка", сустрэта філатэлістамі рэспублікі з вялікай цікавасцю. Маркі выпушчаны таксама ў так званых малых лістах. На палях малога ліста адлюстраваны сілуэты навабудоўляў і будынкаў горада. На купоне ліста — эмблема МАЗа.

У дзень выхаду серыі ў паштовае абарачэнне на Мінскім паштамце праводзілася спецгашэнне памятным штэмпелем з эмблемай МАЗа. Такая ж эмблема — на спецыяльным канверце "Першага дня". Эмблема паказана на фоне нацыянальнага арнамента. Выпушчаны таксама карткі з відамі самазвалаў, адлюстраваных на марках, аматары так званых картмаксімумаў папоўнілі свае калекцыі цікавымі сувенірамі. Аўтарам цудоўнай серыі паштовых мініяцюр пра Мінскі аўтазавод з'яўляецца мастак Г. Долбік.

Леў КОЛАСАЎ.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 921. Падпісана да друку 1. 06. 1998 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.